+тэлепраграма № 44 (306) 29 лістапада 2002 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Аднооўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ЗАБЫТЫ СМАК "САПЯЖАНКІ"



На кірмашах усё радзей сустракаюцца яблыкі даўніх сартоў, яблыкі нашага дзяцінства — "штрыфель", "каштэля", "белы наліў", "медунічка"... Куды ні глянь, на цэтліках новыя назвы — яблыкі "грушавыя" ды "ананасныя". Яблыкі "джанатан" можна сустрэць на ўсіх прылаўках пад самымі рознымі назвамі, часцей за ўсё — "грушавыя". Яблык сорту "голдэн дэлішэс" у нас прадаюць пад назвай "ананасны"... А куды ж зьнікаюць звыклыя сарты? Старонка 13.

# На кароткім павадку

**Напярэдадні візыту А.Лукашэнкі ў Маскву Крэмль заклікаў расейскія СМІ "не драматызаваць аб'ектыўных складанасьцяў" у справе будаўніцтва саюзнай дзяржавы Беларусі й Расеі. У аўторак заяву, істотную для беларускага кіраўніцтва, зрабіў Дзярждэпартамэнт ЗША. У ёй адзначалася, што з 26 лістапада А.Лукашэнку ды сямі буйным беларускім урадоўцам забаронена ўяжджаць на тэрыторыю Злучаных Штатаў. А ў дзень візыту пасол ЗША ў Маскве Аляксандар Вэршбоў заявіў, што ёсьць "частковыя доказы" вайскова-тэхнічнай супрацы Беларусі з Іракам.**

Невыпадкова ў часе перамоваў Лукашэнка і Пуцін супастаўлялі менавіта "пункты гледжаньня па міжнародных праблемах", як паведаміла РІА *"Новости"*. Пікантнасьці сытуацыі дадае той факт, што, паводле інфармацыі *"Известий"*, Эўразьвяз забараніў Лукашэнку ўяжджаць у краіны Шэнгену пасьля кансультацыяў... з Масквой. Выходзіць, Расея паспрыяла паўстаньню "жалезнай заслоны" перад Лукашэнкам на Захадзе, заганяючы яго ў падрыхтаваную пастку.

Перамовы А.Лукашэнкі з У.Пуціным адбываліся за зачыненымі дзьвярыма ў дзяржаўным комплексе Валынскае, на поўначы Масквы. Пра тое, як яны праходзілі, можна толькі здагадвацца. Але ў выніку Лукашэнка пагадзіўся на перамовы пра статус КНГ АБСЭ ў Беларусі і гатовы іх праводзіць "хоць заўтра". Але разам з тым ён адзначыў, што "нельга на нас ціснуць, у сьпіну пхаць", бо ў Беларусі "ёсьць свае нацыянальныя інтарэсы і мы хочам, каб яны ўлічваліся і выконваліся". Гэтыя словы беларускага лідэра не стасаваліся з той кіслай мінай, зь якой ён адказваў на пытаньні журналістаў.



REUTERS

Прэзыдэнты трымаліся зь нязвыклай далікатнасьцю. Адзін не патрабаваў далучыць Беларусь да Расеі (як было ў жніўні), другі не параўноўваў калегу з Сталіным (як у верасьні). У.Пуцін выглядаў стаўпом дэмакратыі, які дапамагае вярнуць у краіну нацыянальнікаў ад АБСЭ. Да чаго выгоднае становішча: без расейскай эканамічнай і інфармацыйнай дапамогі ўрад Лукашэнкі не пратрывае бы і паўгоду. І пры гэтым Расея зноў выступае спонсарам дэмакратызацыі Беларусі.

У выніку Пуцін дамогся зьмены складу і паўнамоцтваў камісіі па выпрацоўцы Канстытуцыйнага акту, у якой Расея бачыць альтэрнатыўны матор інтэграцыі. А ад лукашэнкаўскіх рэвэрансаў у бок Расеі рабілася сорамна. Хоць ці не ад гэтай ганьбы беларусы адвыкаюць быць "братнім народам".

Лукашэнка на пачатку сустрэчы шмат казаў пра сваю ўпэўненасьць у тым, што Расея "ня здасьць" Беларусь. А ў адказ ізноў пачуў злавеснае: Расея так шмат аддала за апошнія дзесяцігодзьдзе, што пра "аддаваць" пытаньня няма — мы будзем браць, але ў межах міжнародных пагадненьняў. Лукашэнка на гэта не адказаў нічога. Пуцін таксама сказаў, што Расея разглядае Беларусь як незалежную дзяржаву, якая сама вызначае сваю палітыку, у тым ліку і ў адносінах з Расеяй.

Калі разумець два гэтыя выказваньні даслоўна, выходзіць: нам не патрэбны ваш сувэрэнітэт, мы забяром пад свой кантроль вашу эканоміку. Узамен прэзыдэнт Расеі паабяцаў, што Беларусь будзе забясьпечаная газам. Лукашэнка ў Маскве выглядаў на закладніка, якога дзякуй богу што адпусьцілі, пасьля афармленьня ўсіх фармальнасьцяў, дадому. А маглі і арыштаваць.

**Алег Тачоны**

**Валянцін Тарас, віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру, так пракамэнтаваў маскоўскі візыт А. Лукашэнкі:**

— Такое ўражаньне, што Лукашэнка здаўся. Вядома, ён цяпер будзе рабіць добрую міну, але... У заяве Пуціна была ключавая фраза, якая ўсё тлумачыць. Ён сказаў, што ў сьнежні альбо студзені трэба будзе стварыць новую камісію, якая зоймецца падрыхтоўкай Канстытуцыйнага акту. А дагэтуль пазыцыя Лукашэнкі была такая, што "ня трэба новых камісій, ня трэба зьмянаў у ранейшыя напрацоўкі". Значыць, ён адступіў. Як адступіў зь непрымірымай пазыцыяй у пытаньні з КНГ АБСЭ.

Гэта ня мір — замірэньне. Замірэньне эканамічнае, з палітычнай перавагай Расеі. Ніякіх дыпляматычных, палітычных і эканамічных перамог Лукашэнка не здабыў. Па-ранейшаму яго трымаюць на павадку, які цяпер стаў карацейшым.

# Выбары перад Калядамі

Адначасова з гістарычным візытам Буша ў Вільню ў Літве афіцыйна распачалася прэзыдэнцкая кампанія. Галасаваньне адбудзецца 22 сьнежня, у адзін дзень зь мясцовымі выбарамі, за два дні да Куцьці. Цяжка было знайсьці больш недарэчны час. Ужо цяпер у Літве, як у любой іншай эўрапейскай краіне, адчуваюцца блізкія Каляды. Пасьля 20-га сьнежня людзі занятыя перадсьвяточным клопатам. Рэкляма кандыдатаў губляецца сярод кідкіх перадкалядных анонсаў сьвяточных акцыяў і зьніжак. Апрача таго, усе перадвыбарчыя плякаты зробленыя паводле аднолькавага ўзору, бо існуе адпаведнае патрабаваньне Вышэйшай выбарчай камісіі. А кандыдатаў на гэтых стандартных плякатах як ніколі шмат.

Літоўскія мэдыі кпліва заўважаюць, што толькі паводле колькасьці кандыдатаў — а іх зарэгістравана 17 — сёлетнія выбары маглі б прэтэндаваць на месца ў кнізе рэкордаў. У 1993 г. Літва абірала паміж двума: Альгірдасам Бразаўскасам ад сацыял-дэмакратаў і Вітаўтасам Ландсбергісам ад кансэрватараў. На выбарах-97 кандыдатаў было ўжо сямёра. А сёлета — ажно 17.

Працяг на старонцы 11.



REUTERS

## У НУМАРЫ

# Зварот да беларускага народу ў Дзень Герояў

Дарагія суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з угодкамі слаўнага Слуцкага Збройнага Чыну. Наш народ мае права ганарыцца слуцкімі героямі, якія былі гатовыя аддаць жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына!

Небясьпека незалежнасьці Беларусі значна завастрылася ў 2002 годзе. Лукашэнка давёў наш край ня толькі да поўнай ізаляцыі, але і да адмоўнага стаўленьня да Беларусі з боку нават найбольш добразычлівых заходніх дзяржаваў. Маскве толькі гэтага і патрэбна. Беларусь цяпер ізаляваная нагэтулькі, што Пуцін не пасаромеўся прапанаваць уключыць яе ў склад Расеі.

Калі наш народ не дакажа, што ён зьяднаны ў змаганьні за незалежную і дэмакратычную сваю дзяржаву і не дазволіць, каб усходні сусед ізноў яе паняволіў, Захад можа даць Пуціну вольную руку. А тут няма патрэбы прыпамінаць, як Масква адносіцца да народаў сваей імпэрыі, якія жадаюць з-пад яе вызваліцца. Хопіць глянуць на падзеі ў Чачэніі.

І таму, дарагія Суродзічы, карыстаю гэтую нагоду, каб Вас заклікаць да салідарнасьці з усімі, хто бароніць незалежнасьць, дэмакратыю і добрае імя нашага краю. Шануйце тых, хто змагаецца за Ваш дабрабыт, за Вашую годнасьць. Выказвайце ім сваю падтрымку. Трэба, каб сьвет пабачыў, што народ наш не прадасьць ужо сваёй душы за некалькі "чырвонцаў". А там, дзе моцная душа, і зброя можа аказацца непатрэбная. Самая моцная сіла ў адзінстве.

Ведаю, што гэта вымагае з Вашага боку мужнасьці і адвагі. Але ж гэтую мужнасьць і адвагу мелі нашыя папярэднікі, у тым ліку гераічныя ўдзельнікі Слуцкага Збройнага Чыну. Няўжо ў нас не ня стане?

Дык памажы нам Божа!

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР**
**27 лістапада 2002 г.**

ляўрэаты

# Стужынская

**Прэміяй Багушэвіча, якую прысуджае Беларускі ПЭН-цэнтар, уганараваная дасьледчыца гісторыі Ніна Стужынская — за кнігу "Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву 20-х гадоў ХХ стагодзьдзя".**

Прэмія была заснаваная ў 1994 г. Даюць яе за літаратурныя творы на гістарычную тэматыку. Сярод ляўрэатаў ужо былі Ўладзімер Арлоў, Генадзь Сагановіч, Міхась Чарняўскі, Алесь Белы й інш.

Уганараваньне адбылося ў памяшканьні ПЭН-цэнтру 25 лістапада, напярэдадні ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну. Як заначыў У.Арлоў, які ўручаў прэмію, Н.Стужынская атрымлівае яе за аднаўленьне аб'ектыўнай гісторыі і паказ гістарычнай праўды. Ейная кніга, якая выйшла ў 2000 г. мізэрным накладам у 300 асобнікаў, адгортвае маладасьледаваныя старонкі антыкамуністычнага змаганьня ў 1920-я — найперш гаворка йдзе пра Слуцкі збройны чын ды падпольную сялянскую партыю "Зялёны Дуб". Дасьледчыца кажа, што ейная галоўная мара цяпер — каб нехта зь пісьменьнікаў увасобіў герояў тае кніжкі ў мастацкай прозе.

Калі такое адбудзецца, хтось з случчакоў і зеленадубцаў стане ляўрэатам новай прэміі ПЭНу — імя Багдановіча. Пра заснаваньне такой абвясьцілі другі віцэ-прэзыдэнт ПЭН-цэнтру Віталь Тарас. Даваць яе будуць за найлепшыя мастацкія кнігі году, незалежна ад жанру — паэзія, проза, драматургія. Першая прэмія будзе ўручаная налета 9 сьнежня 2003 году — у дзень народзінаў Максіма.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

прачытана ў газэтах

# Памагаюць, як кашаль хваробе

**Магчыма, вы чулі, што больш сотні "выдатных канадыйцаў" выступілі ў абарону ірацкага дыктатара Садама Гусэйна, якога мілітарнаю сілаю хочуць зьнішчыць амэрыканскі прэзыдэнт Джордж Буш і брытанскі прэм'ер-міністар Тоні Блэр.**

Пра гэта паведаміла таронцкая газэта "Таронта Сан" 26 верасьня. Тэмаю Гусэйна, які ня хоча пазбыцца сваёй зброі масавага зьнішчэньня, цяпер займаецца сусьветная прэса, палітыкі, уплывовыя людзі й перадусім тыя дзяржавы, якія намагаюццца стрымаць "здурэлага дыктатара", што раней газамі вынішчаў тысячы курдаў і іранцаў.

Грамада "выдатных канадыйцаў"— гэта палітычна левыя артысты, інтэлектуалы, пісьменьнікі, рэлігійныя лідэры й актывісты. Яны ж — найчасьцей тыя самыя людзі, што некалі гадамі заядла даказвалі, быццам заходні вольны дэмакратычны сьвет няправільна разумее "добры й прагрэсіўны камунізм". Цяпер жа такія, як Маргарэт Этвуд, Лінда Маквэйг, П'ер Бэртан, сэнатар Дог Рашэ, Давід Судзукі і Брус Кокбурн, цьвердзяць, што "няма пераканальных доказаў, што Ірак мае ці плянуе мець і ўжываць зброю масавага зьнішчэньня, небясьпечную для цэлага сьвету. 20 гадоў назад Ізраіль разбамбіў ірацкі атамны рэактар, спыніўшы прадукцыю атамнай зброі".

Гэтая група канадыйцаў, якая змагаецца "за мір", якую чуе ўплывовая левая сацыялістычная верхавіна, мае вялікі розгалас у дзяржаве. Між ёю — колішнія марксісты. Прэса і ТВ дае ім голас. Пра Беларусь і ейнага дыктатара яны маўчаць. Найлепш, каб бізнэс з Маскоўшчынаю квітнеў.

**Кастусь Акула, "Беларус"**

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Літвіна

**Пакуль айчынныя літаратары ўзнагароджваюць гісторыкаў, міжнародная супольнасьць скіравала свой погляд на нашых журналістаў.**

Так, прэмію "Залатое пяро Свабоды", заснаваную Сусьветнай асацыяцыяй газэтаў (САГ), атрымае Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ). Рашэньне пра гэта прыняла 26 лістапада Рада САГ — арганізацыі, якая яднае 18 тыс. газэтаў з 100 краінаў. У заяве САГ згадваецца, што гэта другі выпадак, калі ўзнагарода даецца не асобнаму журналісту, а цэлай арганізацыі. У 1969 г. "Пяро" атрымала чэхаславацкая прэса. Прэмія даецца раз на год. Сёлета яе атрымаў Джэфры Н'ярота з Зымбабвэ.

Цырымонія ўганараваньня БАЖ адбудзецца ў чэрвені 2003 г. у Дубліне — падчас Сусьветнага кангрэсу газэтаў і Сусьветнага форуму рэдактараў.

Пачэсную навіну Жанна Літвіна, прэзыдэнтка БАЖу, стрэла ў Бэрліне. У складзе дэлегацыі беларускай апазыцыі (акрамя яе, А.Бяляцкі, В.Вячорка, А.Дабравольскі, А. Лябедзька) яна знаходзіцца там па запрашэньні нямецкага боку.

**А.Ш.**

лісты ў рэдакцыю

## Дажылі да камунізму: жывём бяз грошай

**Хоць, як вы пішаце, "Наша Ніва" — гэта наша газэта, бо друкуецца за нашы грошы, гэтым разам заклік "Дык падпісвайцеся!" падтрымаць не змагу.** Няма чым. Дажылі, нарэшце, да камунізму, жывём бяз грошай. Зарплату саўгасьнікам яшчэ з жнівень не аддалі і не зьбіраюцца. Завялі ў магазыне кніжкі. Прыходзь, атаварвайся: запішуць, потым грошы саўгас пералічыць.

Што цікава, не даюць па запісе гарэлкі, віна, нават піва — толькі за грошы: новы кшталт барацьбы з п'янствам. Душэцеся самагонкай. Засталося яшчэ пашпарты адабраць, каб сядзеў дурны калгасьнік на фэрме, нікуды не вылазіў, нічога ня ведаў.

**Пятро Дырында, Вялікае Сяло, Сьвіслацкі раён**

## "Куш" адменены

**На гэтым тыдні па шматлікіх просьбах віцяблянаў абласное тэлерадыёаб'яднаньне мусіла зьмяніць графік выхаду перадачаў, каб адмяніць трансьляцыю перадачы *"Большой куш"* вытворчасьці расейскай тэлекампаніі СТС.**

На імя дырэктара тэлерадыёаб'яднаньня Уладзімера Мальчыкава прыйшло некалькі дзясяткаў лістоў, у якіх тэлегледачы Віцебшчыны прасілі пазбавіць іх ад непрыстойнасьцяў ды брыдкаслоўя, якія дазваляе сабе ў тэлеэтэры вядучы тае перадачы Атар Кушанашвілі.

Такія прэтэнзіі віцебскія гледачы выказалі й да іншых расейскіх тэлевядоўцаў — такіх, як Малахаў ды Нагіеў. Аўтары лістоў адзначылі, што апошнім часам нецэнзурная лаянка зрабілася характэрнай рысаю расейскага тэлебачаньня.

**А.Т., Віцебск**

## Маэстра Шалкевіч

**20 лістапада а 19-й у менскім Доме вэтэранаў адбыўся канцэрт Віктара Шалкевіча. Сышлося блізу чатырох сотняў гледачоў і слухачоў. Багата было моладзі. Пунктуальны Шалкевіч пачаў вечар, не чакаючы, пакуль публіка зойме месцы адпаведна набытым (досыць танна) квіткам.**

Хутка пачаліся і сьпевы. Напачатку новыя. "Раманс" з матывамі "Ганкі", прыгожае "Маё каханьне", лірычна-патрыятычная "Песьня пра жаўрука", сьцёбная "Баляда пра бамжа". Маэстра не перадаў лішняга і пачаў сьпяваць вядомы рэпэртуар. "Гарадоцкі раманс" і ён жа на чэскай мове, "Шалёная", "Ганка", "Песьня пра саксафаніста Сярожу".

Пасьля кожных дзьвюх-трох песень ішла прамова з байкамі, анэкдотамі і камплімэнтамі на адрас гледачоў і свой таксама. Сёе-тое Шалкевіч ужо распавядаў, напрыклад як езьдзіў па Беларусі з агітканцэртамі напярэдадні выбараў.

Пры канцы гарадзенскі пан меў кветкі і пацалункі ад жанчынаў, якія вачэй не адводзілі ад імпазантнай голенай галавы з барадой і жывымі вачыма. Ад астатніх — воплескі "брава!" і ўспышкі фатакамэраў. Мо хіба на сканчэньне лепш трохі болей лірыкі трэба было. А то песенькі пра горкае сьвінячае жыцьцё і жлобскую нацыю абрыдлі сваёй рэалістычнасьцю.

Маэстра паабяцаў, што хутка можна будзе пабачыць ягоны новы альбом. А пад канец наступнага году мусіць зьявіцца сапраўдная опэра з інтрыгоўным зьместам.

**Усевалад Сьцебурака, Менск**

## Беларускі "Bulletin"

**У Швэцыі выйшаў з друку нумар часопісу "Балцка-габрэйскі бюлетэнь" (*"Östersjöjudisk Bulletin"* № 3—4, 2002), прысьвечаны Беларусі.** У ім — шэраг артыкулаў пра гісторыю беларускіх габрэяў, стан юдэйскіх бажніцаў і могілак, сучаснае жыцьцё суполак. У нумары шмат зьмястоўнай інфармацыі й цікавых каляровых здымкаў зь Віцебску, Менску, Жыровічаў. Асобны матэрыял прысьвечаны Марку Шагалу. Ёсьць таксама агульная інфармацыя пра Беларусь з мапаю краіны.

Сярод актуальных артыкулаў — інтэрвію зь беларуска-габрэйскім паэтам Гіршам Рэлесам, намесьнікам старшыні Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Уладзімерам Ламекам, інфармацыя пра новы Цэнтар скандынаўскіх досьледаў у Менску.

**Андрэй Катлярчук, Стакгольм**

## Жудасны падарунак

**Здаецца, ужо няма чым зьдзівіць заходняга чалавека. Але некаторыя зьявы беларускай рэчаіснасьці яшчэ здольныя ўразіць і нават шакаваць француза ці немца. Якія? Напрыклад, літаратура, напрыклад, творы Сьвятланы Алексіевіч.**

Натуральна, наша літаратура не нагэтулькі вядомая, як амэрыканская ці расейская, затое яна ўмее прывабіць сваім "жудасным рэалізмам", выклікаць сапраўдны выбух эмоцыяў.

Неяк, корпаючыся ў адной кнігарні Рэймсу з мэтаю адшукаць падарунак для знаёмай, я выпадкова натрапіў на кнігу беларускай пісьменьніцы *"Supplication"* ("Чарнобыльская малітва"). Без ваганьняў набыў яе. Я не прадбачачы, які эфэкт зможа зрабіць гэты твор на француза.

Пасьля народзінаў, літаральна празь дзень, я стрэў знаёмую на занятках. На зьдзіўленьне ўсім, заўжды вясёлая й узьнёслая Дэльфін на мяне паглядала мэрам конь з-пад дугі.

У часе пярэрвы я зразумеў, адкуль гэты настрой. Дэльфін з маці да поўначы чыталі чарнобыльскую хроніку і плакалі. Беларуская пісьменьніца іх нагэтулькі ўразіла, што маці наступным днём не пайшла на працу — засталася фруставаць у кватэры. Адзінае, што яна вымавіла ўся ў сьлязох: "Які жудасны падарунак!", маючы на ўвазе кнігу, падораную мною шчыра, ад усяго сэрца.

**Уладзь Гарбацкі, Віцебск**

# Горкі. Істэрн. Без канца

**Чмур раённага маштабу. Лінч над беларускай сям'ёй. Маўчаньне аўтарытэтаў. Бясьсільле моцнае дзяржавы**

"У СШ №4 г.Горкі адбыўся бацькоўскі сход". Нічога не было б дзіўнага ў гэтым паведамленьні, каб ня своеасаблівасьць нагоды: сход сабралі, каб адахвоціць сям'ю Каральковых ад навучаньня іхнае дачкі па-беларуску.

Больш за тры гады людзі адстойваюць гэтае права. Праблема Каральковых і іх адносінаў зь мясцовым аддзелам адукацыі трапіла ў СМІ, стала вядомая ўсёй краіне. Спачатку яе разглядалі скрозь прызму палітыкі й ня больш (Каральковы — сябры БНФ), цяпер выявілася сацыяльная афарбоўка. Падзеі ў Горках чарговы раз давялі, што праблема беларускае мовы й беларускамоўнага навучаньня — гэта ўжо не палітыка, а пытаньне правоў чалавека.

Мясцовыя ўлады ня ведаюць іншых шляхоў вырашэньня такіх праблемаў, акрамя рэпрэсій. Чыноўнікам з раённага аддзелу адукацыі не пазайздросьціш: міністэрства на іх цісьне, каб у Горках зьявілася беларуская школа. Сям'я Каральковых патрабуе таго самага. Аднак, каб вырашыць пытаньне, не стае кваліфікаваных кадраў, здольных якасна выкладаць прадметы па-беларуску, не стае і патрэбнай колькасьці вучняў, каб адкрыць паўнавартасную клясу.

Чым вырашыць гэтыя пытаньні, прасьцей — так здавалася чыноўнікам — "зламаць" Каральковых. Але трапіліся зацятыя, нязломныя. Чыноўнікі пагражаюць судом — Каральковы не баяцца.

Чыноўнікі гатовыя на кампраміс. Ім няўцям, чаму Каральковы ня хочуць аформіць дзіця ў вясковую беларускую школу. Чыноўнікі нават абяцаюць вазіць дзяўчынку ў тую вёску. Аднак Каральковы жывуць у Горках ад нараджэньня й сяло для іх — чужое, варожае асяродзьдзе. Не таму, што тамака народ дзікі, папросту тамака іншы культурны кантэкст, жывуць і думаюць людзі па-іншаму.

І вось, вычарпаўшы ўсе спосабы ўзьдзеяньня на Каральковых, горацкі аддзел адукацыі й адміністрацыя школы наносяць удар ніжэй пояса. Яны ініцыююць бацькоўскі сход. Бацькам прапануецца выказаць сваё стаўленьне да магчымага пераводу аднае зь пятых клясаў на беларускую мову. Каб надаць значнасьці мерапрыемству, на сход запрашаюць супрацоўнікаў абласнога ўпраўленьня адукацыі ды тэлебачаньне. Ладзяць такі міні-эшафот сям'і патрыётаў і цэлай "матчынай мове", ідэі яе адраджэньня.

Абмеркаваньне нагадвала травень 1995-га. І тады, і цяпер ад народу патрабавалі мандат. І ўлада мандат атрымала.

Сход распачаў дырэктар, які абвесьціў прысутным аб мэце мерапрыемства і дадаў, што веданьне мовы найбольш уплывае на фармаваньне асобы. Наступным быў намесьнік начальніка аддзелу адукацыі, які давёў, што на дадзены момант распрацаваная праграма пераводу аднае з горацкіх школаў на беларускую мову навучаньня.

Пасьля на сходзе выступіла група падтрымкі з Магілёва. Бацькі патэнцыйных беларускамоўных вучняў даведаліся аб выключнай ролі беларускай мовы ў ВКЛ і аб тым, што ў Магілёве ўжо амаль адкрытая беларускамоўная кляса з чатырох вучняў. Аб пэрспэктывах далейшага, пасьля школы, навучаньня не было сказана ні слова. Хочаш вучыся, хочаш не — жыві гісторыяй, карацей.

Супраць беларускамоўнага навучаньня найбольш апантана выступалі асобы, якія ў сілу сваіх службовых абавязкаў мусілі б, прынамсі, трымацца нэўтральнасьці. Як высьветлілася на сходзе, па-беларуску нельга вывучыць належным чынам матэматыку — толькі па-расейску ды па-ангельску. Казаў гэта вайсковец зь мясцовага ваенкамату. "А палякі ці немцы як жа вучаць?" — спыталіся яго. "А во так і вучаць — адна назва, што вучаць". Пры гэтым ён дужа наракаў, што сёлета зачынілі гурток беларускага фальклёру — маўляў, дзіця вельмі шкадуе пра гэта.

Адна з настаўніц балюча адрэагавала на "рэзэрвацыю". У гэтым яна ўбачыла зьнявагу нашай "дзяржэўні". Другая настаўніца так разнэрвавалася, што не змагла ў поўнай меры рэалізаваць сваю беларускамоўнасьць, хутка зьбілася й перайшла на мову большасьці. Пасьля сходу яна, падсеўшы да Каральковых, пераконвала, што тыя робяць дрэнна, пазбаўляючы дзіця калектыву.

Уцякач з Казахстану ня вытрымаў і таксама выступіў. Ён сказаў, што не разумее беларускай мовы, але шкадуе, што зачынілі фальклёрны гурток. Большасьць прысутных маўчала. Адчувалася, што тэма гаворкі калі й закранае, дык не настолькі, каб прамаўляць. Усё адно вырашаць за іх.

Сход пытаньня не вырашыў, хутчэй замацаваў пазыцыі бакоў. Улада вынікі сходу выкарастае, каб напісаць чарговую дакладную ў Міндукацыі. Пры выпадку яны стануцца аргумэнтам, каб чарговы раз пераконваць Каральковых у няслушнасьці іхных дзеяньняў — маўляў, народ супраць вас.

Каральковым жа бацькоўскі сход падаўся спробай зладзіць грамадзкі суд над імі. Сваёй пагарды такімі мэтадамі яны не хаваюць. Працяг змаганьня будзе.


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

**Ірына Каралькова дабіваецца беларускай адукацыі для сваёй дачкі.**

Калі б на сходзе аказаўся такі аўтарытэт, які змусіў бы натоўп маўчаць, а сэрца кожнага з прысутных прамаўляць, усё магло б скончыцца па-іншаму. Які б высек іскру, выбіў сьлязу... Ня ведаю, хто мог бы стаць такім аўтарытэтам — Бураўкін, Дабравольскі ці Барыс Кіт. Але калі б такой здольнасьцю здымаць зь людзей чмур валодаў нейкі палітык ці міністар і калі б ён не цураўся кідаць усё ды ехаць у кожныя такія Горкі, дзе адной маленькай дзяўчынцы дужа патрэбная ягоная прысутнасьць, такі чалавек і стаў бы новым лідэрам нашае палітыкі. Прынамсі, я за такім пайшоў бы.

**Алесь Асіпцоў, Горкі**

# Лібэралы нясуць страты

**Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт зьменіць гаспадара. Рэктар Аляксандар Казулін едзе прадстаўляць Беларусь у ААН. Сярод кандыдатаў у рэктары БДУ — Жук, Кухарчык, Краўчанка і вечны дзядзька з Магілёва.**

У пятніцу міжнародная камісія палаты прадстаўнікоў ухваліла кандыдатуру Казуліна. Сяргея Лінга, які дагэтуль быў прадстаўніком, верагодна, накіруюць на пэнсію. Ён сёлета адзначыў 65-годзьдзе. Новае прызначэньне Казуліна — ганаровая ссылка.

Цягам апошняга году А.Казулін знаходзіўся ў няпэўным становішчы. Пасьля таго як студэнты БДУ "няправільна" прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах, рэктара вывелі з складу Савету міністраў, а сам унівэрсытэт пазбавілі многіх ільготаў. Цэлы год А.Казулін ня меў пэўнасьці, ці доўга яшчэ праседзіць у рэктарскім фатэлі. Хадзілі чуткі, што рэктарскую мантыю ён можа зьмяніць на турэмную робу. Справа скончылася ганаровай ссылкай. Хоць лібэральна-капіталістычная партыя ў лукашэнкаўскім атачэньні панесла страты, асабіста Казулін, лічы, абышоўся лёгкім перапудам.

Праз ссылку ў ААН прайшлі Генадзь Бураўкін, зьмешчаны з пасады кіраўніка БТ, і экс-прэм'ер С.Лінг. Вось вернецца Казулін, малады й пэрспэктыўны, зь Нью-Ёрку "на белым кані" — можа, тады і высьветліцца, ці дарэмна хадзілі чуткі пра вылучэньне яго на прэзыдэнта Беларусі. Пагатоў,


IREX-PROMEDIA

А.Казулін пакідае сваю ВНУ "са шчытом": 21 лістапада скончылася падпісаньнем мірнага пагадненьня спрэчка паміж БДУ і "Макдональдзам", дзямі навукоўцы ўнівэрсытэту атрымалі дзьве Дзяржаўныя прэміі за вынаходкі.

Хто стане новым рэктарам? Пасада важная нават у агульнадзяржаўнай гіерархіі. Нездарма БДУ пэўны час існаваў як асобнае міністэрства, непадкантрольнае Міндукацыі. Менавіта ў БДУ праходзіла апрабацыю 10-бальная сыстэма адзнак. Як паказала прызначэньне прэзыдэнта Акадэміі навук, асоба можа быць самая нечаканая.

Наўрад ці рэктарам зробіцца Ўладзімер Замяталін, якім палохалі студэнтаў год таму. Сёньня ён настолькі адышоў ад справаў, што ўявіць яго зьяўленьне ў больш-менш актыўнай самастойнай ролі цяжка.

У калідорах БДУ найбольш імаверным кандыдатам лічыцца першы намесьнік міністра адукацыі Аляксандар Жук. Ён добра ведае ўнівэрсытэт "зь сярэдзіны": доўгі час працаваў прарэктарам, тутсама стаў доктарам пэдагагічных навук і прафэсарам. Дый для самога А.Жука гэта ня будзе паніжэньнем.

Ёсьць таксама імавернасьць, што гэтую пасаду зойме сёньняшні рэктар Акадэміі кіраваньня Пятро Кухарчык. Да прызначэньня А.Казуліна ў 1996 г. ён паўгоду выконваў рэктарскія абавязкі.

Або — чаму б ня мог стаць рэктарам унівэрсытэту Пятро Краўчанка, нядаўна адазваны зь Японіі? Гэта задаволіла б і яго самога, і нацыянальную інтэлігенцыю, і ўнівэрсытэт. Пагатоў, сам сп.Краўчанка цяпер "бяз працы".

Рэктара галоўнага ўнівэрсытэту краіны, без сумневу, будзе прызначаць А.Лукашэнка. Дарма што ва ўнівэрсытэце пасада рэктара выбарная: гэта ж не перашкодзіла ў 1996 г. загадам паставіць А.Казуліна. Той, праўда, ізноў увёў працэдуру выбараў рэктара (у 2000 г.) і нават на безальтэрнатыўнай аснове выйграў. Пагаворваюць, што пасаду рэктара А.Лукашэнка ўжо прапанаваў некаму з магілёўскіх чыноўнікаў ад адукацыі.

**Аркадзь Шанскі**

### т ы д з е н ь   н а ш а г а   ж ы ц ь ц я

## Рэкордная свабода прэсы

**Газэта *"Местное время"* пасьпела выдаць толькі тры нумары** — і атрымала паведамленьне пра ліквідацыю "ў сувязі з парушэньнямі ў часе рэгістрацыі". Хутка, відаць, апазыцыйныя газэты будуць выходзіць толькі раз, як за Пілсудзкім.

## Рэкордны рэйтынг Пуціна

**Рэйтынг Пуціна ў Расеі перавысіў 80%.** Даўно расейцы так нікога не любілі.

## Антынародныя дэпутаты

**Яшчэ адна дэпутацкая група, аналягічная думскай, зьявілася ў беларускай палаце.** Гэта "Народны дэпутат" на чале зь лідэрам камуністаў Захарчанкам і экслідэрам камуністаў Малафеевым. Толькі ці адпавядае гэткая гульня ў Думу інтарэсам беларускага народу?

## Новыя зьдзяйсьненьні

**Фэдэрацыі прафсаюзаў беларускай асабіста ППРБ дазволіў называцца Фэдэрацыяй прафсаюзаў Беларусі.** За такое дасягненьне Леаніда Козіка варта ўзнагародзіць ордэнам.

## Справа коціцца да трыбуналу

**Пракуратура адказала палаце прадстаўнікоў у справе зьнікненьня вядомых палітыкаў: "Новых зьвестак няма".** Камісіі Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы па гэтым пытаньні, што сабралася ў сераду ў Парыжы, застаецца толькі ўзяць расьсьледаваньне ў свае рукі. Калі яна пацьвердзіць, што адбыліся палітычна матываваныя забойствы, справа можа трапіць у міжнародны трыбунал.

## Новы кіраўнік "Velcom"

**Новым кіраўніком першага апэратара мабільнай сувязі GSM стаў Юры Акімаў.** Раней ён працаваў начальнікам упраўленьня замежных сувязяў Мінсувязі. Шматзначны пункт ягонай біяграфіі: у 1982—86 г. быў на дыпляматычнай службе. Былы гендырэктар Мікалай Юшкевіч стаў намесьнікам Акімава.

## Будуць бакаляўры і магістры

**Сыстэма вышэйшай адукацыі ў Беларусі** зробіцца дзьвюхступеннай з 2004 г.

## Башы вінаваціць Маскву



**Пажыцьцёвы прэзыдэнт пустэльнае Туркмэніі Сапармурад Ніязаў зьвінаваціў у замаху на сябе Маскву і туркмэнскіх уцекачоў,** што знайшлі прытулак у Расеі. Перад палацам Туркмэнбашы адбыўся мітынг ягоных прыхільнікаў. Яны патрабавалі караць тэрарыстаў горлам, хоць сьмяротная кара ў краіне скасаваная — злачынцаў высылаюць на папраўчыя працы ў Каракумы.

## "Астра" трапіла не туды

**Расейская ракета "Пратон" ня здолела вывесьці на зададзеную арбіту эўрапейскі спадарожнік "Астра".** Не спрацавала чацьвёртая ступень, якая адказвае за размяшчэньне аб'екту на арбіце. Абсталяваньне вартасьцю 300 млн. даляраў цяпер можа зрабіцца касьмічным сьмецьцем. Ягоныя ўладальнікі ў выпадку чаго не пацерпяць: яно застрахаванае.

**Мікола Бугай**

# Перавагі Ельцынавага шляху

**Улада вызначылася з сваёй пазыцыяй адносна мясцовых выбараў, што мусяць адбыцца 2 сакавіка 2003 г. 20 лістапада на паседжаньні ўраду Лукашэнка заявіў, што "мясцовыя саветы і органы выканаўчай улады павінны дзейнічаць у адной камандзе". Такую заяву можна было б расцэньваць як нэўтральную, калі б яна не прагучала ў дні, калі Масква запусьціла мэханізм поўнай міжнароднай ізаляцыі Беларусі.**

Намаганьнямі каманды Лукашэнкі ў краіне склалася эфэктыўная сыстэма правядзеньня выбараў усіх узроўняў. Вынікі іх вядомыя яшчэ да падліку бюлетэняў. Мясцовым структурам "вэртыкалі" не патрэбны афіцыйны загад і інструктаж зьверху, каб яны пачалі працаваць на патрэбны вынік. Дастаткова празрыста намякнуць.

Умовай працы мясцовых саветаў і "вэртыкалі" ў "адной камандзе" ёсьць адпаведны склад дэпутатаў. Згодна з Выбарчым кодэксам, мясцоваму чыноўніцтву дадзеныя ўсе неабходныя паўнамоцтвы для працісканьня "сваіх" у мясцовыя саветы. Калі ж хто не дагледзіць і дэпутацкі мандат атрымае нязручная для ўлады асоба, давядзецца адказваць за тое, што не была забясьпечаная "праца аднае каманды".

Трываласьць улады Лукашэнкі ў немалой ступені тлумачыцца тым, што інтарэсы вяршыні "вэртыкалі" і яе мясцовых структураў супадаюць. Верхавіна зацікаўленая ў забесьпячэньні палітычнага кантролю падчас выбараў. А мясцовым структурам зручна дзейнічаць, калі шараговым грамадзянам няма каму скардзіцца. Для таго каб утрымацца на пасадзе, дастаткова праводзіць на месцах "палітыку прэзыдэнта".

Травеньскія выбары, праведзеныя зь мінімальнай ступеньню адпаведнасьці дэмакратычным крытэрам, дазволілі б гаварыць аб лібэралізацыі, "зьмякчэньні" рэжыму. Маўляў, Лукашэнка паціху адпускае лейцы напярэдадні сканчэньня другога тэрміну і перадачы ўлады абранаму народам палітыку. Але каманда Лукашэнкі вырашыла, як і раней, кантраляваць сытуацыю і ў цэнтры, і на месцах, трымаючы апазыцыю па-за сыстэмнай палітыкай. Няма сумневу, што і ў часе наступных парлямэнцкіх выбараў улада будзе трымацца ранейшай стратэгіі.

Адмова ад лібэралізацыі дае Лукашэнку магчымасьць захаваць прэзыдэнцкую пасаду, напрыклад праз чарговы рэфэрэндум. Ён ня будзе "першапраходцам" на прасторы СНД — у Туркмэніі і Ўзбэкістане гэта ўжо адбылося.

Магчымы й іншы сцэнар. Захаваньне статус-кво дазваляе Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г. прасунуць свайго пераемніка. Калі гарант Канстытуцыі будзе пэўны, што ў яго пасьля страты пасады ня будзе "непрыемнасьцяў", ён можа на гэта пайсьці. Адпаведная пэнсія, дзяржаўнае лецішча, ахова, транспарт, нейкая ганаровая пасада — што яшчэ трэба, каб спакойна сустрэць старасьць? Згадаем ельцынска-пуцінскую ракіроўку.

Такі сцэнар вельмі імаверны. Беларусь эканамічна значна больш арыентаваная на Расею, чым згаданыя вышэй краіны Цэнтральнай Азіі. У інфармацыйнай прасторы пануюць расейскія тэлеканалы. Інтэграцыйныя ініцыятывы У.Пуціна, нядаўняя "газавая атака" Крамля сьведчаць, што для цяперашняга расейскага кіраўніцтва хаўрусьнік у асобе Лукашэнкі больш не "сьвятарная карова".

З набліжэньнем 2006 г. Масква будзе ўсё часьцей рабіць спробы прыўласьніць стратэгічныя аб'екты беларускай дзяржаўнай маёмасьці. Імкненьне ўсталяваць кантроль над "Белтрансгазам" — толькі першы пункт у плянах Крамля. Беларускі бок аб'ектыўна ня можа пайсьці насустрач Расеі. Страціўшы кантроль над вялікімі прадпрыемствамі, Менск ня дасьць рады ўнутрыпалітычнай сытуацыі. Аналягічна трэба разглядаць і пытаньне нацыянальнай прыналежнасьці крэдытна-эмісійнага цэнтру ў межах "саюзнай дзяржавы". Гатовасьць Лукашэнкі "інтэгравацца" мае пэўныя межы.

**Не атрымаўшы разуменьня з боку Лукашэнкі ў пытаньнях рэалізацыі сваіх плянаў, Масква можа зрабіць стаўку на больш адпаведную яе інтарэсам фігуру. Мэханізм поўнай міжнароднай ізаляцыі Беларусі можа быць запушчаны адначасова.** Нягледзячы на посьпех дыпляматычных і інфармацыйных акцыяў афіцыйнага Менску ў адказ на несяброўскія дзеяньні Масквы, ён ня зможа "адбівацца" бясконца. Адмова саступіць пасаду ў 2006 г. азначае для Лукашэнкі рэальную пэрспэктыву трапіць у тупіковую сытуацыю. Пытаньне легітымнасьці ўлады трэба зьняць, інакша выйсьця няма.

Беларуская палітычная эліта не маналітная — у выпадку зьяўленьня рэальнага ціску ўзьнікнуць групоўкі, што будуць імкнуцца забясьпечыць стабільнасьць сытуацыі нават шляхам адхіленьня Лукашэнкі ад улады. Створыцца канфліктная сытуацыя: інтарэсы менш ангажаваных ва ўладу прадстаўнікоў эліты, тэхнакратаў увойдуць у супярэчнасьць з інтарэсамі асобаў кшталту В.Шэймана, Ю.Сівакова, У.Навумава, "запасьнікоў" У.Замяталіна, С.Посахава. Апошнія могуць сябе ўтульна адчуваць у Беларусі толькі пакуль А.Лукашэнка — прэзыдэнт. Ім ёсьць што губляць. Любыя прыкметы дэмакратызацыі беларускага грамадзтва прымусяць прадстаўнікоў гэтай хвалі шукаць прытулку там, дзе добра ўладкаваўся І.Ціцянкоў, — у Расеі.

Так што "ўсенародна абранаму" лепш будзе, не ствараючы сабе экстрэмальных сытуацыяў, перадаць уладу ў "надзейныя" рукі й сысьці з палітыкі ў 2006 г. Зьмена галоўнай палітычнай фігуры адчыніць перад былой палітычнай элітай Беларусі ("маладымі камуністамі і старымі камсамольцамі", разбаўленымі "дыназаўрамі" савецкага мінулага) пэрспэктыву нармалізацыі адносінаў з Захадам. Сапраўдныя майстры гульні з заходнімі палітыкамі ва ўладзе ёсьць — успомнім хоць бы "перамовы" 1999 г. Але і ў гэтым выпадку паўстане пытаньне сапраўднае дэмакратызацыі й вяртаньня апазыцыі ў сыстэмную палітыку.

**Андрэй Ляховіч**

# Эўропа цісьне на Лукашэнку

**У нетрах Эўрапарлямэнту рыхтуецца чарговы "антыбеларускі дакумэнт".**

Канфлікт Лукашэнкі з эўраструктурамі ўвайшоў у новую фазу, калі прэзыдэнт выказаў жаданьне ўдзельнічаць у саміце *NATO*. Потым была адмова на ўезд у Чэхію і забарона наведваць краіны Эўразьвязу. Збоку падалося, што ЭЗ адрэагаваў хутчэй эмацыйна, чым у адпаведнасьці зь нейкім плянам. Але Эўразьвяз, магчыма, даўно рыхтаваўся. Сьведчаньне гэтага — праект дакумэнту, які рыхтуецца ў нетрах Камітэту Эўрапарлямэнту па міжнародных справах, правох чалавека і супольнай палітыцы ў галіне бясьпекі й абароны. На 14-ці старонках дакумэнту — ня толькі апісаньне сытуацыі ў краіне, але й праект рэзалюцыі па Беларусі для Эўрапарлямэнту.



Апроч традыцыйных зваротаў да беларускага кіраўніцтва й асуджэньня парушэньняў правоў чалавека, перасьледу апазыцыі, адсутнасьці дэмакратыі, дакумэнт утрымлівае шэраг новых палажэньняў. Перш за ўсё, гэта заклік адрозьніваць падыход да Беларусі як памежнай краіны ад падыходаў да Ўкраіны й Малдовы. Праект таксама пастулюе неабходнасьць усталёўваць кантакты з "прагрэсіўнымі сфэрамі беларускага грамадзтва" і дэмакратычнымі палітычнымі партыямі, забясьпечыць іх "дапамогай і падтрымкай". У пункце 9 канкрэтызуецца: Эўракамісіі варта павялічыць фінансавую падтрымку беларускім грамадзкім арганізацыям. Бо зважаецца на неабходнасьць ня толькі дэмакратызацыі, але і перадухіленьня ізаляцыі ўсёй краіны.

Ёсьць у дакумэнце і супярэчлівыя моманты. Так, роля галоўнага "дэмакратызатара" Беларусі ў праекце адводзіцца Расеі. Нічога не сказана і пра стаўленьне да беларускай незалежнасьці. І гэта ў той час, калі пазыцыя ЗША ў дачыненьні да Беларусі значна больш акрэсьленая: "дэмакратыя і сувэрэнітэт". Так што ў пазыцыях ЭЗ і ЗША па беларускай праблеме яшчэ хапае няўзгодненых момантаў.

Эўрапарлямэнт гатовы да адмовы ратыфікаваць такую важную для нас дамову аб партнэрстве і супрацоўніцтве з ЭЗ, каб ціснуць на беларускія ўлады — пакуль апошнія яўна не засьведчаць сваё імкненьне паважаць дэмакратычныя правы і ўсталяваць у краіне вяршэнства закону. Такім пернікам (а трохі ўжо і бізуном?) эўрапейцы будуць вымушаць рэжым зьмяніцца.

**Сяржук Лісічонак**

**апытаньне «НН»**

# За якім палітычным лідэрам Вы пайшлі б?

**Генадзь Вінярскі, дырэктар "Беларускага кнігазбору":** Цяпер ні за якім. Да 1996 г. пайшоў бы за Пазьняком. І на выбары, і ў разьведку, можа.

**Алена Адамчык, фотамастачка:** За сваім мужам. Гэта адзіны кандыдат сярод мужчынаў, які можа быць мною цалкам падтрыманы. За ўсімі іншымі, палітычныя лідэры ці не, я ня бачу ніякага сэнсу некуды йсьці.

**Уладзімер Беражкоў, галоўны рэдактар газэты *"Прессбол"*:** За Ўладзімерам Ярмошыным, калі б ён насамрэч займаўся палітыкай. Але ён хутчэй бізнэсовец. Сярод расейскіх — падтрымліваў бы Прымакова. А наконт сучасных беларускіх — ня ведаю. Тут даводзіцца абіраць лепшае з горшага. Палітыкі, якія выклікалі ў мяне давер, ці зьніклі, ці паўміралі.

**Генадзь Бураўкін, паэт:** Бясспрэчна, што пайшоў бы і пайду за тым, для каго лёс Беларусі будзе галоўным у жыцьці. Калі буду бачыць, што гэты чалавек любіць свой народ, шануе, беражэ родную мову, ведае і штодзень вывучыць сваю гісторыю, дык падтрымаю яго. Але трэба, каб менавіта такога захацеў увесь народ. І каб разам зь ім гатовы былі пайсьці на пакуты і барацьбу. А прозьвішча яго ня буду называць, бо вельмі хачу, каб ён застаўся жывы.

**Вольга Іпатава, пісьменьніца:** За любым адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сілаў. Няхай нават ён і не адпавядае ўяўленьням нашых палітыкаў пра лідэра. Галоўнае, каб быў тым чалавекам, які зможа рэальна заваяваць сэрцы выбаршчыкаў.

**Вольга Кузьміч, старшыня Рады ЗБС:** Аддалена лідэра, за якім бы я пайшла, нагадвае Вінцук Вячорка. Але кандыдатуры, якую б я без развагаў падтрымала, няма. Ня бачу палітыка, здольнага зрабіць добрым беларускім прэзыдэнтам.

**Віталь Супрановіч, кіраўнік "Беларускай музычнай альтэрнатывы":** Калі б Пазьняк ня зьехаў зь Беларусі, дык, мабыць, падтрымаў бы яго. У свой час галасаваў за Ганчарыка. Але толькі таму, што ён быў адзіным кандыдатам. Цяпер лідэра, за якім бы пайшлі людзі, трэба шукаць толькі сярод маладых, ня вельмі раскручаных палітыкаў.

**Барыс Чарнаглаз, пастыр царквы Ісуса Хрыста гораду Менску:** Сёньня такой асобы, мабыць, няма. Дый, каб нешта вырашыць наконт чалавека, трэба зь ім асабіста сустрэцца, паразмаўляць, гледзячы яму ў вочы. Так мы рабілі летась, падчас прэзыдэнцкіх выбараў. Пакуль давер у мяне выклікалі толькі вочы Івана Пашкевіча.

**Апытвала Вольга Анцыповіч**



# Лукашэнка зноў у Маскве

## *Дынаміка паездак у расейскую сталіцу*

**Сярод кіраўнікоў дзяржаваў ня толькі СНД, але й усяго сьвету найчасьцей наведваў Крэмль Аляксандар Лукашэнка. Прапануем вашай увазе хроніку гэтых візытаў, мэты якіх цягам васьмі гадоў увесь час зьмяняліся.**

У якасьці прэзыдэнта Беларусі Аляксандар Лукашэнка ўпершыню наведаў расейскую сталіцу **3 жніўня 1994 г.** Ад прыхільнасьці расейскага кіраўніцтва залежала будучыня яго прэзыдэнцтва. Лукашэнка хацеў захаваць эканамічныя льготы, якіх дамогся Вячаслаў Кебіч. Расейскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін паабяцаў дапамагчы Беларусі "парадай і грашыма". "Яны гаварылі са мной як з роўным. Я рады, што Расея зразумела і падтрымала мяне", — узрушана гаварыў беларускі прэзыдэнт. За кадрам засталося тое, што Расея па-ранейшаму дыктавала свае ўмовы.

У наступны раз Лукашэнка пабываў у Маскве **20—21 кастрычніка 1994 г.**, на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў СНД. Падчас перамоваў з прэм'ерам Віктарам Чарнамырдзіным абмяркоўваліся пытаньні запазычанасьці Беларусі за энэрганосьбіты (500 млн. даляраў), ільготныя цэны на газ і нафту. Лукашэнка распачаў гульню з Масквой: адключыце газ — грошай не атрымаеце. У той час незалежнікі скептычна сустрэлі словы Лукашэнкі пра тое, што "мы не здаём ніякага тут сувэрэнітэту, а хочам цывілізавана будаваць свае адносіны з тымі, безь якіх мы проста жыць ня можам". Падчас гэтага візыту ў Лукашэнкі абвастрыліся адносіны з Барысам Ельцыным, які прапанаваў на пасаду кіраўніка Міждзяржаўнага эканамічнага камітэту краінаў СНД Вячаслава Кебіча ды зажадаў перанесьці сталіцу СНД зь Менску ў Маскву.

**28 кастрычніка 1994 г.** Лукашэнку зваліў дыскагенны радыкуліт, і кансультавацца ён паляцеў да маскоўскіх спэцыялістаў. "*БДГ*" пісала 31 кастрычніка 1994-га: "Прадстаўнік кіраўніка дзяржавы нардэп Лябедзька зь ня дужа адпаведнымі сытуацыі ўрачыста-сумнымі інтанацыямі зачытаў па беларускай тэлевізіі афіцыйнае паведамленьне пра стан здароўя прэзыдэнта".

Праз два тыдні, **11 лістапада 1994 г.**, вяртаючыся з Сочы, А.Лукашэнка заляцеў у Маскву — сустрэцца з Чарнамырдзіным. Перамовы былі цяжкімі: Масква настойвала на акцыянаваньні й уключэньні ў "Газпром" газаправодаў, што праходзяць па тэрыторыі Беларусі. У сярэдзіне лістапада "Газпром" паставіў ультыматум: цягам 12 дзён Беларусь мусіць сплаціць 420 млн. даляраў запазычанасьці за газ. Былі скарочаныя яго пастаўкі.

### Пачатак інтэграцыйнай гульні

Зіма 1994—95 г. прынесла Беларусі безьліч эканамічных праблемаў, што не магло не адбіцца на ўзроўні жыцьця насельніцтва і, адпаведна, на рэйтынгу А.Лукашэнкі. Каб выратаваць сваю ўладу і абяззброіць апазыцыю, у пачатку 1995-га ён распачаў інтэграцыйныя гульні. Лукашэнка зрабіў Расеі шэраг "падарункаў", галоўны зь якіх — травеньскі рэфэрэндум.



IREX-PROMEDIA

Тады яны абдымаліся...

**19 верасьня 1995 г.** у Маскве Лукашэнка і Чарнамырдзін афіцыйна абмяркоўвалі ход рэалізацыі другога этапу "мытнага саюзу", а неафіцыйна беларускі лідэр прасіў грошай, нафты і зьмены ставак мытных збораў. Ельцын і Лукашэнка падпісалі Дамову аб сяброўстве і супрацоўніцтве, якая дала Расеі права ўзаконіць вайсковую прысутнасьць у нашай краіне. Узамен Лукашэнка атрымаў энэрганосьбіты па зьніжаных цэнах.

### Расейскае кіраўніцтва вагаецца

У **лютым 1996 г.** "Газпром" ізноў патрабуе ад Беларусі выплаціць запазычанасьці за газ. Лукашэнка едзе ў Маскву, да Ельцына. Былі падпісаныя шэсьць пагадненьняў, якія рэглямэнтавалі эканамічныя адносіны Беларусі й Расеі. Лукашэнка дамогся часовай перадышкі, а расчулены Ельцын паведаміў прэсе пра намер Расеі "дапамагчы Беларусі выйсьці да мора праз Калінінград".

**22 сакавіка 1996-га** Лукашэнка ляціць у Маскву, але атрымлівае "адлуп": расейскага прэзыдэнта чакаюць выбары, а Лукашэнка пачаў падыгрываць ягоным апанэнтам — камуністам. Так, ён падтрымаў думскае рашэньне пра дэнансацыю Белавескіх пагадненьняў.

**2 красавіка 1996 г.** у Маскве падпісваецца расейска-беларуская дамова аб стварэньні супольнасьці сувэрэнных дзяржаваў Беларусі й Расеі. Расея "сьпісвае" нам мільярд даляраў.

**17 траўня 1996-га,** саміт кіраўнікоў дзяржаваў СНД у Маскве: паміж Ельцыным і Лукашэнкам непаразуменьні. Ельцын бачыць у Лукашэнку канкурэнта ў змаганьні за пасаду "галоўнага інтэгратара".

У **жніўні 1996 г.** замест запланаваных перамоваў наноў абранага Ельцына і Лукашэнкі ў Маскве адбылася кароткая пратакольная размова. Гэта была помста Ельцына за падтрымку Лукашэнкам левых. Чарнамырдзін нагадаў Лукашэнку пра запазычанасьці, а беларускі прэзыдэнт прапанаваў "павялічыць паток расейскага капіталу ў Беларусь". На гэта расейскі прэм'ер скажа: "З вашым заканадаўствам хто ж да вас пойдзе?"

**У пачатку верасьня 1996 г.** Лукашэнка нечакана паляцеў у Маскву. Адбыўся скандал: кіраўнік дзяржавы казаў, што сустрэўся зь Ельцыным, Чарнамырдзіным, Лебедзем, Прымаковым. Прэс-служба Лукашэнкі ўдакладніла, што зь Ельцыным ён не сустракаўся. Высьветлілася таксама, што сустрэча з Чарнамырдзіным насіла прыватны характар. Прычынай тэрміновай паездкі Лукашэнкі была спроба празандаваць стаўленьне расейскага кіраўніцтва да ягонай ідэі зладзіць рэфэрэндум з мэтай падаўжэньня тэрміну паўнамоцтваў.

**16 кастрычніка 1996 г.** Лукашэнка ў Маскве сустракаецца зь Ельцыным і Чарнамырдзіным. Афіцыйна яны абмяркоўвалі пытаньні сацыяльна-эканамічнай інтэграцыі, неафіцыйна Лукашэнка чакаў словаў падтрымкі рэфэрэндуму. Расейскае кіраўніцтва "вучыла" Лукашэнку, але ў вырашальны момант яно падтрымала прэзыдэнта — яшчэ адзін посьпех Лукашэнкавых паездак у Маскву.

### Супольныя інтарэсы

**7 сакавіка 1997 г.** Ельцын і Лукашэнка размаўлялі на інтэграцыйныя тэмы. Расейскі прэзыдэнт настойваў на паскарэньні інтэграцыі, а Лукашэнка адтэрміноўваў.

**23 траўня 1997 г.** Лукашэнка зь Ельцыным падпісалі саюзны статут. Напярэдадні візыту Лукашэнка намякнуў расейскаму боку, што ён заплюшчыць вочы на зьнішчэньне сувэрэнітэту Беларусі, калі яму дадуць магчымасьць удзельнічаць у выбарах кіраўніка саюзнай дзяржавы. Ніякіх гарантыяў Лукашэнка не атрымаў.

**Увосень 1997 г.** расейскія ўлады забаранілі Лукашэнку наведваць Яраслаўскую і Ліпецкую вобласьці — за тое, што ня выпусьціў Шарамета. У лістападзе "Газпром" нагадаў беларускаму ўраду пра запазычанасьці.

У **студзені 1998 г.** А. Лукашэнка наведаў Маскву, дзе яго сустрэлі прахалодна, як шараговага расейскага губэрнатара. Прэзыдэнты падпісалі супольны саюзны бюджэт. Ельцын імкнуўся захаваць за сабой імідж "галоўнага інтэгратара", адсоўваючы Лукашэнку на друг плян. Аднак той не адчайваўся. У лютым ён зь неафіцыйным візытам наведаў Прымор'е, дзе зрабіў шэраг гучных заяваў. Лукашэнка сказаў, што Беларусь вінавата Расеі 120 млн. даляраў, а Расея Беларусі — 800 млн. "Складаецца нейкае ўражаньне ў расейцаў, што Лукашэнка зь беларусамі на захадзе ледзь ня гіне, што ім вельмі патрэбна Расея для таго, каб іх утрымліваць і карміць. Самая сапраўдная бязглузьдзіца", — гаварыў Лукашэнка.

**25 сьнежня 1998 г.** Лукашэнка і Ельцын падпісалі дэклярацыю аб намеры стварыць саюзную дзяржаву. Інтэграцыйныя гульні працягваліся ў інтарэсах абодвух бакоў.

Прыход у траўні 1999-га на пост прэм'ера Расеі Сяргея Сьцяпашына стаўся для А.Лукашэнкі трывожным сыгналам. У праекце новай саюзнай дамовы адсутнічала пасада прэзыдэнта саюзнай дзяржавы. А пасьля зьяўленьня Уладзімера Пуціна ў Лукашэнкі ўжо не было шанцаў выйграць у яго выбары. Падчас сваіх візытаў у Маскву Лукашэнка цяпер больш увагі надаваў "выбіваньню" для Беларусі разнастайных эканамічных ільготаў — як было **23 верасьня 1999 г.** — калі Лукашэнка сустракаўся з тады яшчэ прэм'ерам Уладзімерам Пуціным.

### Пуцін наступае

**24—25 студзеня 2000 г.** на саміт кіраўнікоў краін — удзельніц СНД Лукашэнка ехаў з таемнай надзеяй заняць вакантную (пасьля адстаўкі Ельцына) пасаду старшыні Рады кіраўнікоў дзяржаваў СНД. Аднак яе перахапіў новы прэзыдэнт Расеі У.Пуцін.

**23 студзеня 2001 г.** Лукашэнка ў Маскве сустрэўся з патрыярхам Аляксіем II, атрымаў прэмію Міжнароднага фонду адзінства праваслаўных народаў. Гэта было слабое суцяшэньне для беларускага прэзыдэнта.

**1—2 красавіка 2001 г.** Лукашэнка сустрэўся з Пуціным. Фармальнай нагодай было пяцігодзьдзе стварэньня супольнасьці сувэрэнных дзяржаваў Беларусі і Расеі.

**20 чэрвеня 2001 г.** Лукашэнка сустракаецца ў Маскве з Пуціным, дамагаецца ад яго абяцаньня прыслаць на выбары назіральнікаў. "*Газета СНГ*" пісала 25 чэрвеня 2001-га: "Імкненьне Лукашэнкі вырашыць усе свае праблемы з дапамогай Пуціна відавочнае. Як ні дзіўна, бездапаможнасьць беларускага прэзыдэнта найбольш яскрава праяўляецца якраз у перадвыбарныя месяцы. Становіцца зразумела, што адзіным магчымым апірышчам для Лукашэнкі зьяўляецца Масква". Езьдзіў Лукашэнка не дарэмна: расейскае кіраўніцтва вырашыла падтрымаць яго, а не апазыцыю.

**28 лістапада 2001 г.** Аляксандар Лукашэнка правёў у Маскве трохгадзінныя перамовы з У.Пуціным. Гэта быў першы замежны візыт Лукашэнкі пасьля выбараў. Яго неадназова адкладалі, а прэм'ер Міхаіл Касьянаў "не знайшоў часу" сустрэцца з Лукашэнкам. З Пуціным не было падпісана ніякіх дакумэнтаў, але курс на стварэньне саюзнай дзяржавы абвяшчаўся нязьменным.

### Магчымасьць для манэўру

Запамінальнай для А.Лукашэнкі сталася ягоная паездка ў Маскву **14 жніўня 2002 г.** па запрашэньні У.Пуціна. На перамовах абмяркоўваліся кірункі двухбаковага супрацоўніцтва: пашырэньне гандлёва-эканамічных кантактаў, пэрспэктывы саюзнага будаўніцтва, узаемадзеяньне на міжнароднай арэне. Лукашэнка адзначаў, што па ўсіх гэтых праблемах "было дасягнута поўнае ўзаемаразуменьне". Аднак асноўнай тэмай перамоваў сталіся пэрспэктывы стварэньня саюзнай дзяржавы. На скандальнай прэс-канфэрэнцыі Пуцін агучыў расейскія прапановы інтэграцыі, якія прыводзілі да паэтапнага зьнішчэньня беларускай дзяржаўнасьці. Лукашэнка адказаў толькі пасьля вяртаньня ў Менск. Ён спрабаваў сябе ў ролі незалежніка, такую ж каманду атрымалі дзяржаўныя СМІ й органы ўлады. Пачаўся новы этап інтэграцыйных гульняў. Цяпер А.Лукашэнка больш асьцярожны. Становішча Пуціна складанае — у Расеі набліжаюцца прэзыдэнцкія выбары, левая апазыцыя бачыць у Лукашэнку свайго хаўрусьніка. Гэтая сытуацыя дае яму выдатныя магчымасьці для новых манэўраў, якімі ён у часы Ельцына заваблівае расейскага мядзьведзя ў беларускі гарод, а ў часы Пуціна пасьпяхова стрымліваў яго ля плоту.



REUTERS

Цяпер трымаюць дыстанцыю.

**Алег Тачоны**

# Гіпэрмаркеты замест рынкаў

*"Аквабел" і "Чэрвеньскі рынак" адступаюць перад буйным капіталам*

Нельга сказаць, што рынак "Аквабел" у Зялёным Лузе памёр. Хутчэй, ён паволі канае. Там, дзе раней стаялі кантэйнэры для аптовага гандлю, вецер ганяе сьмецьце. Дзе-нідзе сыплюцца іскры — дэмантуюць кіёскі. Некаторыя зь іх гаспадароў намагаюцца працаваць "да апошняга", распрадаючы рэшту тавару, але найбольшы зыск маюць нелегалы, якія прыгандлёўваюць пэтардамі.

Улады ўжо даўно пастанавілі зачыніць рынак. Гандаль на ім мусіў быць спынены яшчэ 1 верасьня, але адміністрацыя, як і раней, зьбірала арэндную плату. Ішлі размовы пра тое, што рынак будзе працаваць да 1 сьнежня. Аднак ужо 10 лістапада ў адміністрацыю "Аквабелу" прыйшла разнарадка з ДАІ, у якой патрабавалася да 16 лістапада зачыніць аварыйны выезд на Менскую кальцавую дарогу "зь меркаваньняў бясьпекі". Дырэктар рынку Пётра Сінкевіч вырашыў, што лепш сварыцца з прадпрымальнікамі, чым з ДАІ, ды паведаміў, што рынак зачыняць 16-га. Але прадпрымальнікі сабралі сход, на якім палохалі адміністрацыю судом, і тая саступіла. Праўда, ненадоўга. 19 лістапада быў забаронены заезд і выезд аўтамабіляў на рынак і з рынку. Выключэньне зрабілі толькі для вялікагрузных плятформаў для вывазу кантэйнэраў ды кіёскаў.

### З "Аквабелу" на "Экспабел"

За 150 мэтраў ад "Аквабелу" будуюць падобны да яго рынак "Экспабел". Адчыніцца ён налета. Плошча выставачных заляў рынку складзе 20 тыс. кв.м, а агульная плошча, улучна з паркоўкай на 3,2 тыс. аўто, — 12 гектараў. Адміністрацыя "Аквабелу" прапануе прадпрымальнікам пераехаць на "Экспабел".

Здавалася б, прапанова добрая, але ня ўсё тут проста. Папершае, ніхто ня мае жаданьня вось так зрывацца са свайго месца — яшчэ колькі месяцаў таму адміністрацыя "Аквабелу" мела пляны разьвіцьця рынку на 25 гадоў наперад. Па-другое, умовы на "Экспабеле" абяцаюць быць яшчэ больш жорсткімі, чым на "Аквабеле". Толькі нямногія гандляры перайшлі на "Экспабел"; пэўная частка прадпрымальнікаў перавезла свае "кропкі" ў Ждановічы, а большасьць увогуле ня ведае, што рабіць, бо, паводле іхных словаў, "Аквабел" высмактаў усе грошы. Гандляры кажуць, што найбольш дзейсным спосабам выцягваньня зь іх грошай былі гэтак званыя дамовы на пазыкі, якія прадпрымальнікі мусілі падпісваць на колькі гадоў наперад, каб мець магчымасьць працаваць. Сумы пад тыя дамовы патрабавалі розныя — ад 1000 да 7000 даляраў. Перарэгістрацыя гандлёвага месца з чалавека на чалавека каштавала 500 даляраў.

Адзін прадпрымальнік распавеў, што выкупіў тры гандлёвыя месцы за 450 даляраў, разьлічыўся наяўнымі грашыма. Праз некалькі тыдняў у яго забралі два, а грошай не аддалі. На "Экспабеле", кажуць, будуць яшчэ большыя паборы, дый месцаў можа на ўсіх не хапіць, бо многія зь іх ужо скупілі каўказцы.

Прадпрымальнікі, якія з 19 лістапада ня маюць магчымасьці нармальна працаваць, хоць і заплацілі за арэнду, рыхтуюць пазоў у гаспадарчы суд — будуць патрабаваць з адміністрацыі кампэнсаваць маральны ўрон і вярнуць частку арэнднае платы. Іх адвакаты кажуць, што "Аквабел" плянуе абвясьціць пра сваё банкруцтва.


IREX-PROMEDIA

**Прадпрымальнік Генадзь ("Аквабел"): Я стаю не пад дахам, а пад адкрытым небам, гандлюю поліэтыленавымі пакетамі. Дык зь мяне здымаюць грошы за электрычнасьць! За што я плачу? За сонечную энэргію?**

### Чэрвеньскі напярэдадні "рэканструкцыі"

У 1997—98 г. сталічныя ўлады раіліся, як даць інвалідам магчымасьць рэалізаваць свае гарантыі па занятасьці, ня трацячы на гэта вялікіх бюджэтных сродкаў. Вырашылі зрабіць Чэрвеньскі рынак нечым кшталту базы для самарэалізацыі гэтай часткі насельніцтва. Цяпер сярод прадпрымальнікаў, якія працуюць на рынку, больш за 400 інвалідаў. Можна ўявіць сабе, які шок быў у гэтых людзей, калі яны даведаліся, што рынак з 1 студзеня зачыняецца.

"Белкаапсаюз" вырашыў ліквідаваць яго "ў парадку рэканструкцыі тэрыторыі". Той, хто быў на Чэрвеньскім, ведае, што ён стаіць на гары, нібы на дзьвюх вялізных "прыступках". На ніжняй прадаюць харч, а на верхняй — прамтавары. На ёй месьціцца яшчэ й крама "Эўралюкс". Ліквідацыю пачнуць зь "верхняй прыступкі", што даволі несуцяшальна, бо там стаіць і галоўны офіс.

Адміністрацыя Чэрвеньскага, у адрозьненьне ад аквабелаўскай, актыўна выступае супраць закрыцьця. Ня дзіва: яшчэ ўчора яны на падставе пазыковых дамоваў упрыгожвалі тэрыторыю, клалі асфальт, зьмянялі бардзюрныя камяні, будавалі новыя кіёскі і г.д. Аднак рынак — унітарнае прыватнае прадпрыемства "Белкаапсаюзу", і кіраўніцтву Чэрвеньскага даводзіцца выконваць рашэньне, хоць адміністрацыя Ленінскага раёну, на тэрыторыі якога ён знаходзіцца, і Менгарвыканкам аніякіх захадаў па ліквідацыі рынку не рабілі.

Ужо канец лістапада, і ў прадпрымальнікаў з "Чэрвеньскага" застаецца толькі месяц да запланаванага закрыцьця — можна не адшукаць новага месца.

### Гіпэрмаркет важнейшы за інвалідаў

Дык што гэта за рэканструкцыя, якая зьнішчыць рынак? "Белкаапсаюз" не афішуе назвы арганізацыі, якая будзе яе рабіць. Але зьмены, якія адбываюцца ў ваколіцах рынку, шмат пра што кажуць. У верасьні скончылася перабудова вул.Аранскай, якую вяло Кіраўніцтва дарожна-маставога будаўніцтва. Цяпер вуліцы, якія атачаюць рынак, маюць ня менш за тры паласы руху ў кожны бок. Зьявіліся шыкоўныя падземныя пераходы зь ліфтамі, аздобленыя эўрапластыкам. Разьлічаныя яны не на інвалідаў-гандляроў, якіх гоняць з рынку. Цікава, што тыя пераходы ня маюць нішаў для гандлёвых кропак. Побач з рынкам зіхаціць сьвежай фарбай новая бэнзакалёнка "Белнафтахіму". Для чаго ўсё гэта? Прадпрымальнікі кажуць, што "Белкаапсаюз" знайшоў фірму, якая пад маркай рэканструкцыі збудуе на месцы "Чэрвеньскага" гіпэрмаркет. Нельга выключаць і магчымасьць пабудовы гіпэрмаркету на тэрыторыі "Аквабелу", які выгадна месьціцца ля Менскай кальцавой дарогі.

Менскія рынкі падобныя да ўсходніх базараў зь іх заўсёдным хаосам ды сумнеўнымі санітарнымі ўмовамі. Апошнім часам сталічныя ўлады змагаюцца за "эстэтыку": спачатку змусілі прадпрымальнікаў прыбраць зь вялікіх вуліцаў кіёскі, а потым распачалі барацьбу з рынкамі ды кампанію пабудовы гіпэрмаркетаў. З пункту гледжаньня спажыўца, гіпэрмаркет — не такая ўжо й дрэнная рэч. Але для малых прадпрымальнікаў месца ў гіпэрмаркетах ня будзе. Толькі ў якасьці звычайных пакупнікоў або звычайных наёмных работнікаў. Час постсавецкага бізнэсу скончаецца.

**Алесь Кудрыцкі**

# Прайграны аўкцыён "Слаўнафты"

**Аўкцыён па продажы дзяржаўнага пакету акцыяў "Слаўнафты" праваліўся. Беларускі ўрад "кінулі".**

На таргі, што адбыліся 22 лістапада на Беларускай валютнафондавай біржы, выставілі адным лётам 515.087.000 акцыяў "Слаўнафты" (10,83% статутнага фонду). Урад, здавалася, спадзяваўся аддаць свае акцыі "Сургутнафтагазу". Кіраўнік гэтай фірмы Ўладзімер Багданаў нават прыяжджаў у Беларусь 19 лістапада. Але "Сургутнафтагаз" нават не падаў заяўкі на ўдзел, хоць і мае, паводле ацэнак экспэртаў, 4 млрд. "вольных" даляраў. На аўкцыён зьявіўся толькі "Слаўнафтабанк", які прадстаўляе інтарэсы губэрнатара Чукоткі Рамана Абрамовіча зь ягонай кампаніяй "Сібнафта".

"Адзіны кандыдат" прапанаваў за беларускі пакет 210 млн. даляраў (на 10 млн. больш за стартавую цану). Але беларускі бок плянаваў атрымаць за акцыі ніяк ня менш за 250 млн., таму было абвясьцілі, што аўкцыён не адбыўся. Балазе, ён праходзіў за "зачыненымі дзьвярыма" і грамадзкасьць ня ведае ўсіх акалічнасьцяў перамоваў паміж "Слаўнафтабанкам" ды ўрадам. 25 лістапада адбыўся "другі раўнд" таргоў. Вынік той самы.

Гэта не пралік ураду, які "заламіў" занадта высокі кошт, а, хутчэй, узгодненая гульня расейскіх бізнэсоўцаў. Беларускі бок выходзіў з таго, што стартавая цана акцыяў мусіць у адсоткавых адносінах стасавацца з расейскай (1,7 млрд. даляраў за 74,95% расейскіх акцыяў прыкладна адпавядаюць 200 млн. за 10,83% беларускіх). Рэальны агульны кошт "Слаўнафты" — каля 2,8 млрд. даляраў. Гэта азначае, што Беларусь мае права разьлічваць прыкладна на 300 млн. даляраў. Калі так, дык 210 млн., прапанаваных"Слаўнафтабанкам", замала.

Магчыма, зьвесткі пра фінансавыя цяжкасьці "Сургутнафтагазу" й ягоная адмова браць удзел у аўкцыёне — тактычны ход, які мусіць зьбіць цану ды ператварыць гандаль у фарс, што скончыцца дамовай між урадам і кампаніяй. "Сургутнафтагаз" зацікаўлены не столькі ў беларускім пакеце акцыяў, колькі ў прыватызацыі беларускага нафтахімічнага комплексу. Беларусь жа хоча толькі прадаць акцыі, каб сплаціць "Газпрому" запазычанасьць за газ.

**А.К.**

эканамічная хроніка

### Зьнізіліся пакупкі валюты

**У кастрычніку беларусы штодзень куплялі ў абменных пунктах 5,7 мільёна даляраў.** Гэта на 9,5% меней, чым у сярэднім за студзень—верасень. Зьніжэньне можа быць зьвязанае з павышэньнем папулярнасьці ашчаджэньняў у беларускіх рублях у сувязі са зьніжэньнем інфляцыі і са зьмяншэньнем колькасьці вольных грошай у людзей у выніку рэзкага росту камунальных выплатаў.

### 500 гаспадарак без заробку

**Палата прадстаўнікоў прыняла закон пра рэарганізацыю сельгаспрадпрыемстваў.** Стратныя калгасы ды саўгасы, якіх у краіне больш за 1400, будуць зьліваць з багацейшымі, дзяліць, пераўтвараць у акцыянэрныя таварыствы і г.д. Бо 500 гаспадарак ня маюць грошай нават каб плаціць заробкі. Галоўную ролю ў рэарганізацыі будзе адыгрываць мясцовая ўлада. Значыць, бізнэсоўцы змогуць навязваць ёй свае сцэнары, як гэта было ў выпадку "Белавескай харчовай кампаніі".

### Нацбанк рэкамэндуе

**Нацбанк раіць банкам зьнізіць адсоткавыя стаўкі па крэдытах.** Звычайна такое робяць, каб "ажывіць" эканоміку, прыцягнуць інвэстыцыі ды пашырыць вытворчасьць. Гэта дрэнна адаб'ецца на рэнтабэльнасьці банкаў. Каб ўратаваць сытуацыю, яны будуць змушаныя зьменшыць апэрацыйныя выдаткі — г.зн. скараціць пэрсанал, адмовіцца ад малапрыбытковых відаў дзейнасьці.

### Новая банкнота

**50 тыс. рублёў — гэткі намінал будзе мець новая банкнота, якую ўвядуць у зварот 20 сьнежня.** Яна будзе цёмна-бірузовая, з выявай Мірскага замку. Банкнота мае новы элемэнт абароны ад падробак — невялікую разэтку, якая зьмяняе колер ад залацістага да зялёнага, калі яе разглядаць пад рознымі вугламі.

### Эўрачып ад "Белтэлекаму"

**"Белтэлекам" скончыў мадэрнізацыю таксафонаў у краіне — цяпер "унівэрсальнымі" тэлефоннымі карткамі можна будзе карыстацца паўсюдна.** Са звычайнага таксафону — тэлефанаваць па мясцовай сувязі, а з унівэрсальнага — хоць за мора. На картках усталяваны "эўрачып". Тут "Белтэлекам" абагнаў нават сыстэму крэдытных плястыкавых картак "Visa", якая пакуль карыстаецца традыцыйнай магнітнай паласой. Старыя карткі на 120 хвілінаў будуць скасаваныя налета ў верасьні.

### Падатканяплатнік

**Дырэктара менскага УП "Кансісей" вінавацяць у тым, што летась ягонае прадпрыемства ад 20 чэрвеня да 31 жніўня ня сплачвала падаткі** ды не адлічвала грошай у пазабюджэтныя фонды. Дзяржава спаганяе з дырэктара 857,5 млн. рублёў (каля 460 тыс. даляраў).

### Газ, электрыка падаражэлі

**У 2,46 разу пабольшала цана газу, калі параўноўваць са студзеньскімі коштамі.** Для тых, хто мае газавыя лічыльнікі ды газавае ацяпленне, яна вырасла ад 50,23 да 79,5 руб. (за 1 $м^3$) у ацяпляльны пэрыяд і ад 59,5 да 103 руб. улетку. Тыя, у каго няма лічыльнікаў, але ёсьць газавыя пліты й гарачая вада, маюць плаціць 825 руб. на чалавека ў месяц замест 476. Газ "у балёнах" будзе каштаваць 275 руб. за 1 $м^3$ (раней было 160,6).

**А.К.**

## Забойства ва Ўздрыгалавічах

**У вёсцы Ўздрыгалавічы, што на Мядзельшчыне, зьнікла была кабета. Знайшлі яе праз колькі дзён у рацэ Сэрвач.** Спачатку людзі думалі, што ўтапілася сама: ці мала як бывае, немаладая ўжо. Але судмэдэкспэрт пабачыў, што паветра ў ейных лёгкіх не было, а хрыбет пашкоджаны. Значыць, хтось задушыў. Высьветлілася, што зрабіў гэта тутэйшы лясьнік, якому тая баба нібыта спаліла хлеў. Ён ужо прызнаўся. Ва Ўздрыгалавічах і блізкіх Крывічох ня ведаюць, што і думаць: чалавек той быў спакойны, разумны і непітушчы. Трэба ж было адважыцца на такое. Дапамагала яму жонка.

**Вацлаў Зьвяруга, Мядзел**

## Пікет у Пінску

**26 лістапада сябры КХП-БНФ правялі ў цэнтры Пінску санкцыянаваны пікет у падтрымку чачэнцаў.** Восем удзельнікаў трымалі бел-чырвона-белыя і чачэнскія сьцягі ды плякаты “Спыніць генацыд чачэнскага народу!”, “Расейскія фашысты — прэч з Чачэніі!”, раздавалі беларускія выданьні. Жыхары гораду падыходзілі да пікету і выказвалі падтрымку. Усе адзначалі выключную жорсткасьць расейскіх спэцслужбаў падчас штурму тэатру ў Маскве і тэрарыстычны характар рэжыму Пуціна. Міліцыя ж склала пратаколы на Лявона Вабішэвіча й Ігара Саракавіка “за разьмяшчэньне пікету на 5 мэтраў далей дазволенага месца”.

**Паводле прэс-рэлізу КХП-БНФ**

## Крыж па Зязюлю

**У Сяньне на Віцебшчыне ўсталяваны крыж на сымбалічнай магіле беларускага паэта Андрэя Зязюлі.** Пад гэтым псэўданімам пісаў ксёндз Аляксандар Астрамовіч, які цягам трох гадоў перад сваёй сьмерцю ў 1921 г. служыў у Сеньненскім касьцёле і быў тут пахаваны. Ушанаваньне ягонае памяці адбылося з ініцыятывы мясцовае суполкі ТБМ і пры ўдзеле клюбу “Спарта” і краязнаўчае суполкі “Спадчына”.

## Выстава ў Шаркаўшчыне

**У Шаркаўшчынскім цэнтры рамёстваў адчынілася выстава твораў з пленэраў памяці Язэпа Драздовіча**, сабраных у культурна-асьветным цэнтры ягонага імя ў Германавічах.

## Табліца па Гераніму Праскім

**Пра факт наведваньня Віцебску паплечнікам Яна Гуса, чэхам Геранімам Праскім у 1413 г. мусіць нагадваць мэмарыяльная шыльда на адным з будынкаў гораду.** З такой прапановай да мясцовых уладаў зьвярнуўся краязнаўчы фонд імя Сапунова. Макет мэмарыяльнай шыльды зрабіў скульптар Валянцін Занковіч.

**Міхал Чарвінскі, Віцебск**

## Выцьвярэзьніку ня будзе

**Берасьцейскі аблвыканкам вырашыў ліквідаваць мэдвыцьвярэзьнік у Івацэвічах.** Дысцыплінаваны райвыканкам гэтае рашэньне адобрыў. Выцьвярэзьнік зарабіў сёлета за 10 месяцаў толькі 4.238.600 рублёў, а зь бюджэту на яго ўтрыманьне накіравана 45.909.900 рублёў.

Дыхтоўны будынак пуставаць ня будзе. Пасьля рамонту тут паселяцца пашпартна-візавая служба ды інспэкцыя па справах непаўналетніх.

## Тавары на вэксаль

**Працаўнікі 18 калгасаў Івацэвіччыны чакаюць не дачакаюцца заробкаў зь ліпеня.** У трох гаспадарках чакаюць з чэрвеня. 765,7 млн. рублёў дзяржава вінаватая аграрнікам раёну. Каб неяк пагасіць гэтыя запазычанасьці, у нетрах мясцовай вэртыкалі нарадзілася ноў-хаў: вясковым крамам загадана адпускаць тавары па сьпісах, пададзеных праўленьнямі калгасаў. Кола пакупнікоў крыху пашырылася, аднак на вялікую грашовую выручку разьлічваць не даводзіцца: тавары ж бяруць на вэксаль. Сяляне абмяжоўваюцца самым неабходным: набываюць у крэдыт хлеб, цукар, алей, віно, селядцы. Яны не губляюць надзеі, што “жывыя” грошы калісьці ўсё ж такі атрымаюць.

**Алесь Лаўранюк, Івацэвічы**

## Новая кіраўнічка Магілёўскага ТБМ

**23 лістапада адбылася канфэрэнцыя Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ.** На пасадзе старшыні арганізацыі Міхася Булавацкага зьмяніла Натальля Лебедзева, выкладчыца беларускай літаратуры Магілёўскага ўнівэрсытэту. Дэлегаты заклікалі Міністэрства адукацыі спрыяць пашырэньню беларускамоўнай адукацыі, вырашылі зьвярнуцца з прапановай усталяваць у Магілёве помнікі Максіму Гарэцкаму й Цішку Гартнаму.

**Магілёвец**

## Другі прэзыдэнт

**І ў гэтым навучальным годзе ў Астравецкай СШ №2 не адышлі ад традыцыі выбіраць прэзыдэнта школы.** Гэтую пасаду заняў вучань 11-й клясы Ігар Сакалоў. Цяпер ён фармуе кабінэт міністраў. Былы прэзыдэнт школы Ўладзімер Кутко вучыцца ў Акадэміі пры прэзыдэнту Беларусі.

**Мар’ян Вянгроўскі, Астравец**

## Indykaferma



**Haspadar Viktar Lizevič pačaū budavać fermu na 2 tysiačy indziušak kala vioski Hincavičy,** što pad Baranavičami. Skončyć planuje za paūtara hodu. Dumaje, što taki biznes maje perspektyvu.

## Ababrali carkvu

**U vioscy Miłavidy abrabavali pravasłaūnuju carkvu.** Skrali darazachavalnicu, łampadu, dva kryžy, kufli i šmat inšaha na 2 młn. rubloū.

## Pamiraje baranavickaje piva

**Z novaha hodu Baranavicki kambinat charčovych praduktaū nia budzie bolš varyć piva.**




Pradpryjemstva pryznałasia, što bolš nia ū stanie kankuravać ź inšym biełaruskim i zamiežnym pivam. Piūny cech budzie pierarobleny pad vypusk pładovych vinaū i biezalkaholnych napojaū.

## 2 butelki i 15 tysiač

**Da baranavickaha pensijanera, jaki handlavaū samahonkaj, uviečary ū chatu ūłamilisia dvoje.** Pabili staroha dy zabrali litar samahonki j 15 tysiačaū rubloū. Ale aprychodavać dabro rabaūniki nie paśpieli — zatrymała milicyja. Jany j nia dumali, što stary zajavić.

## Niemaūla na śmietniku

**15 listapada na baranavickim haradzkim śmietniku la vioski Dzieraūnaja znajšli miortvaje niemaūla,** ukručanaje ū biełuju praścinu. Milicyjanty razam z daktarami pačali pošuk maci-zabojcy.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

## Балбасаўскія вуліцы назвалі

**Атрымалі назвы вуліцы мястэчка Балбасава (Аршаншчына).** За савецкім часам на мапе яго не было, бо тут базаваўся полк стратэгічнай авіяцыі. Пасьля яго вываду ў Расею пасёлак быў “рассакрэчаны”. Шматпавярховыя дамы маюць тут трохзначную нумарацыю. Вуліцы названыя традыцыйна: Юбілейная, Маладзёжная, Авіяцыйная. Спрэчкі сярод дэпутатаў пасялковага савету выклікала прапанова назваць цэнтральную вуліцу ў гонар Сяргея Грыцаўца. Менавіта тут 16 верасьня 1939 г. першы двойчы герой Савецкага Саюзу загінуў у авіякатастрофе.

## Хлеб зь ёдам

**У Воршы пачалі пячы хлеб з марской капустай.** 20 грамаў гэтага хлебу ў дзень задавальняюць патрэбу арганізму ў ёдзе.

## Падмуркі царквы

**Падчас пракладаньня траншэі пад газ па вул.Уваскрасенскай у Воршы былі раскапаныя падмуркі, складзеныя з валуноў на вапнавай рошчыне.** Як мяркуецца, яны належаць Уваскрасенскай царкве XVI ст. Ужо ў пачатку XIX ст. яе не было. Побач з царквой існавалі могілкі, пра што сьведчаць знойдзеныя чалавечыя парэшткі. Людзі кажуць, што шмат пахаваньняў было раскапана ў 1960—70 г. у часе будаўніцтва швейнай фабрыкі “Сьвітанак”, што месьціцца побач. Схаваныя пад зямлёй падмуркі знаходзяцца ў ахоўнай зоне гістарычнага цэнтру Воршы і будуць уключаныя ў Дзяржаўны сьпіс гістарычна-культурнай спадчыны.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

## Зьнік крыж

**Падчас выставы васковых фігур у Крычаўскім раённым музэі са скульптуры салдата фашысцкай Нямеччыны зьнік Жалезны крыж.** Узнагарода была сапраўдная. Выстава зробленых з воску сусьветна вядомых злачынцаў працавала ў Крычаве два тыдні. Інцыдэнт адбыўся ў дзень закрыцьця, калі выставу наведала чарговая экскурсія школьнікаў.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## “Хуткія” ад немцаў

**На балянсе бялыніцкай больніцы знаходзяцца тры “хуткія дапамогі” “мэрсэдэс-бэнц”.** Першыя два аўтамабілі, падараваныя жыхарамі гораду Золінгену, ужо некалькі гадоў выяжджаюць на выклікі. А трэці набылі днямі. Грошы на патрыманую, але ў добрым стане “хуткую” дапамог знайсьці пастар Эрнст Блайл з гораду Гастэхазбэрген.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

## Сьпіртаправод па дне рэчкі

**У Салецкім раёне Літвы, што мяжуе зь Беларусяй, затрымалі кантрабандыстаў, якія незаконна перапраўлялі церазь мяжу сьпірт, прычым рабілі гэта даволі арыгінальным спосабам.** Яны праклалі па дне рэчкі Сольчыца, якая падзяляе ў гэтым месцы дзьве дзяржавы, сапраўдны сьпіртаправод. Для гэтага скарысталі звычайную трубу, канцы якой ля берагоў закапалі ў зямлю. Па гэтай трубе сьпірт пераганяўся зь Беларусі ў Літву, дзе за яго плацілі па пяць літаў (2700 рублёў) за літар. Падчас затрыманьня, якое праводзілася проста на рацэ, кантрабандысты спрабавалі ўцячы, скочыўшы ў ваду, але ўдалося тое толькі аднаму злачынцу. Двое другіх — 43-гадовы літовец Юзэф Тубкелевічус і 32-гадовы беларус Станіслаў Войшнэ — ледзь не патанулі. А на беразе пагранічнікі ўзялі і яшчэ двух іхных памагатых.

**Паводле *“Советской Белоруссии”***

## Як пры дзядах і прадзедах



IREX-PROMEDIA

**Магілёўскі гарвыканкам ухваліў праграму па рэканструкцыі гістарычнай часткі гораду.** Праграма разьлічаная на 10 гадоў. Будаўнікі й архітэктары плянуюць узнавіць аблічча і атмасфэру старога места, вярнуць ягоным вулкам былыя назвы, дамам — каляровую гаму і старадаўнія фасады.

**“Магілёўская хроніка”**

**На здымках: Гістарычная частка гораду сёньня (зьверху) і ў пачатку XX ст.**



з Дубровы Сьветлагорскага раёну

## Люба Цурка зарэзала мужа

Трагедыя здарылася акурат у пятніцу ў першай палове дня на вуліцы Маладзёжнай. Люба Цурка варсанула свайго мужа Аляксандра нажом, калі той спаў. Злачынству папярэднічалі не зусім цьвярозыя акалічнасьці. Абое не цураліся сьпірытусовага зельля. Напярэдадні Аляксандар выбіў з калгасу нейкія свае грошы, пэўна, была замочка, якая скончылася трагедыяй.

Ахвяра часова нідзе не працавала. За сьпінаю Аляксандра дзьве турэмныя гісторыі, і быў ён чалавекам даволі агрэсіўным і злосным на грамадзтва і жыцьцё. Ды і як не злаваць: куды б здароваму мужыку ні ўладкавацца на працу, дзяржава цынічна плаціць бухенвальдзкі заробак, аўтаматычна залічвае ў басоту. Кажуць, што і ў сям’і быў нялад.

Забойца Люба ў нецьвярозым стане заўсёды была дастаткова агрэсіўная. У яе таксама былі праблемы з законам. Урэшце рэпрэсаваная агрэсія выйшла вонкі страшнай бядой для сям’і. Паліцыя арыштавала забойцу. Засталіся дзьве дзяўчыны, Юля і Алеся. Юля паступіла вучыцца ў Палескі сельскагаспадарчы тэхнікум, а Алеся давучваецца ў 11-й клясе.

Суседзі са спачуваньнем паставіліся да Любы. Яны кажуць, што жанчына дбала пра дачок, была працавітаю, і вінавацяць мужа ў дэградацыі жонкі. Да пракурора нават скіравалі ліст з просьбаю выпусьціць Любу пад падпіску аб нявыезьдзе, каб падтрымаць дачок. Але марна.

Алесю забралі сваякі Любы, а Юлі суседзі сабралі трохі грошай ды ежы, каб адправіць на вучобу.

Як далей будзе — невядома. Вельмі шкада, што такая страшная гісторыя адбылася ў рахманай Дуброве. Пакрысе і тут набіраюць моц працэсы разбурэньня: у руінах кацельня, у руінах лазьня, дом быту, недакончаны гандлёвы комплекс. Лічы, што сам калгас — руіна.

Дуброўская трагедыя адбылася акурат 30 жніўня, на дзень нараджэньня беларускага дыктатара. Нездарма ж гараскопшчыкі раілі ў той дзень быць асабліва абачлівымі і нічога важнага не рабіць.

**Мікола Бусел, “Дуброўскі настрой”**

# Няміга на 400 месцаў

**Гісторыю менскае Нямігі ў XX ст. можна абазначыць адным словам — "страты". Гістарычная забудова — нізкія двух-трохпавярховыя дамкі, пятлястыя вузкія вулачкі — была зьнішчаная ў 70—80-я. Ужо ў нашыя дні пад маркай рэстаўрацыі дамы на скрыжаваньні вуліцаў Рэвалюцыйнай і Камсамольскай былі зьнесеныя — замест іх зьявіліся архітэктурныя муляжы-стылізацыі. Хутка ў тым раёне мае паўстаць яшчэ й паркінг на 400 месцаў, які "разгрузіць" цэнтар Менску ад аўтамабіляў.**



Эскіз макету будучага паркінгу на Нямізе

Менгарвыканкам ды Мінкультуры ўжо далі згоду на пабудову паркінгу ў гістарычным цэнтры гораду. Найлепшым сярод прапанаваных праектаў прызнаны "Ўспамін пра Нямігу" — распрацоўка майстэрні ТАА "Трайпл" пад кіраўніцтвам архітэктара-рэстаўратара **Сяргея Багласава**. Цікавы факт: сам архітэктар сваім часам выступаў супраць пабудовы паркінгу на Нямізе. Аднак перагледзеў сваю думку. Падставай, паводле яговых словаў, сталася назіраньне за адрэстаўраваным Верхнім горадам: "Там жа цяпер не прайсьці — усё застаўлена машынамі!"

### Аркады, машыны і шапікі

На думку С.Багласава, рэканструкцыю мусіць зазнаць уся вуліца. Шматпавярховыя дамы Нямігі будуць на вышыні 6,6 м падзеленыя ўздоўж фасадаў гарызантальнымі плятформамі (аркадамі). Гэтыя вузкія (3 м) пешаходныя масткі над праезнай часткай вуліцы паяднаюць Нямігу з Ракаўскім перадмесьцем. Стылізаваныя "пад даўніну" (*a la* Траецкае) часткі дамоў, што мусяць узьняцца над плятформамі, будуць мець 2—3 паверхі ў вышыню. Гэтак, на думку С.Багласава, будзе захаваная памяць пра невысокія дамкі Нямігі. Ніжняя частка дамоў будзе "сучаснай", нестылізаванай.

Замоўцамі ў справе пабудовы паркінгу выступаюць фірма "Клясык" і ТАА "Паркінг". Пакуль што яны далі грошай на год археалягічных дасьледаваньняў на Нямізе і аплачваюць працу архітэктара.

Аўтапаркінг разьлічаны на 400 месцаў. Яговая пабудова, кажа С.Багласаў, дазволіць "разгрузіць" ад аўтамабільных стаянак пляц Волі, вуліцы Рэвалюцыйную і Камсамольскую. Заяжджаць у паркінг можна будзе з самой Нямігі ды з пляцу Волі. Апроч месцаў для машынаў, у будынку будуць разьмешчаныя гандлёвыя ўстановы.

Праект перапрацаванай Нямігі выглядае прывабна. Сваё задавальненьне ад убачанага варыянту выказаў вядомы бард **Зьміцер Бартосік**: "Я думаў, там традыцыйная вялізная махіна будзе. Але тое, што я пабачыў, мне спадабалася". Наадварот, злачынствам называе ўсе праекты пабудовы паркінгу ў цэнтры гораду старшыня ТБМ археоляг **Алег Трусаў**: "На Нямізе можна аднавіць дамы, якія стаялі ў XVIII—XIX ст. Гэта ўнікальная магчымасьць".



Будынкі старога Менску на месцы заплянаванага паркінгу былі зьнесеныя яшчэ ў пачатку 70-х. Замест іх некалькі дзесяцігодзьдзяў сталі нязграбныя гандлёвыя шапікі.

### Паркінг можна рухаць

Супраць пабудовы паркінгу ў гэтым раёне выступае і грамадзкая ініцыятыва "Няміга-1570". Адзін зь яе сяброў, намесьнік старшыні Менскай гарадзкой рады Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Ўладзімер Дзянісаў** пэўны, што будаўнікі канчаткова зьнішчаць рэшткі Халоднай сынагогі 1570 г. "У часе стварэньня праекту не праводзіліся ніякія дасьледаваньні: ні архіўныя, ні археалягічныя. Таму архітэктар ня дужа кампэтэнтны ў сытуацыі. Ужо цяпер падмуркі Халоднай сынагогі разбураюцца экскаватарам", — кажа гісторык. Паводле словаў С.Багласава, пабудова тых парэштак не закране: "Мы адышлі ў праекце на 25 м ад будынку "Прампраекту", каля якога месьцяцца падмуркі. Калі археолягі скажуць адсунуцца далей — адсунемся".

"Калі ўладам хочацца ставіць паркінг у цэнтры Менску, можна знайсьці шмат іншых месцаў", — зазначае А.Трусаў. І прапануе будаваць яго ў раёне Старажоўкі. "Ніколі, нават у страшныя савецкія часы, не прадугледжваўся паркінг на Нямізе. Паводле ранейшых праектаў, ён плянаваўся ў сквэрыку на рагу Нямігі й Гарадзкога Валу. Усяго колькі соцень мэтраў — пешкі прайсьці можна", — кажа У.Дзянісаў. Катэгарычна не пагаджаецца з гэтым С.Багласаў: "Вельмі далёка. Ніхто не паедзе з пляцу Волі, каб пастявіць там сваю машыну".

### Некаму спадабаўся ўчастак

Паводле словаў У.Дзянісава, будаўніцтва паркінгу супрацьзаконнае: "Раён Нямігі — помнік гісторыі, архітэктуры і горадабудаўніцтва дзяржаўнага значэньня, гэта міжнародны помнік першай катэгорыі. Нават паводле савецкіх нарматыўных актаў забаранялася пабудова аўтастаянак на тэрыторыі помнікаў такога ўзроўню. Паркінг — гэта такі ж прамысловы аб'ект, як завод, фабрыка і г.д.! Высновы ўсіх экспэртаў (НВА "Белінфармрэстаўрацыя", Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру, інстытут "Менскграда") сыходзіліся на тым, што паркінг тут нельга ставіць. Але галоўны архітэктар Менску Аляксандар Чадовіч запатрабаваў даць экспэртнае абгрунтаваньне неабходнасьці яго пабудовы. Выглядае, што некаму гэты ўчастак спадабаўся і гэты нехта хоча тут пабудавацца".

Кіраўнік дэпартамэнту па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі **Васіль Абламскі** прызнаў, што афіцыйных дакумэнтаў, абгрунтаваньняў на пабудову паркінгу сапраўды няма: "Гэта не архітэктурны праект, а эскізны. Вось вырашым прынцыпова, што і як мы хочам бачыць, тады і будзем афармляць патрэбныя дакумэнты". Пакуль жа праект С.Багласава навукова-мэтадычная рада "прыняла да ведама" і даручыла архітэктару "далейшую дэталёвую распрацоўку праекту".

Ліст да А.Лукашэнкі з пратэстам супраць зьнішчэньня сынагогі на вул. Дзімітрава, 3 і падмурку Халоднай сынагогі на Нямізе падпісалі 75 дэпутатаў палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу — ад камуніста Ігара Катлярова да "лібэрала" Ўладзімера Парфяновіча. Настойлівасьць кіраўніка "Нямігі-1570" Якуба Гутмана дала плён. Кіраўніцтва ж дэпартамэнту па ахове гістарычна-культурнай спадчыны зазначыла, што канчатковае рашэньне аб забудове Нямігі пакуль не прынятае, і задэкляравала правесьці грамадзкае абмеркаваньне праекту. Яшчэ можна штосьці зьмяніць.

**Аркадзь Шанскі**



Новы паркінг будзе стаяць на старых падмурках.

адукацыя

# Бацюшкі ціснуць

**На пачатку лістапада Міністэрства адукацыі зладзіла навукова-практычную канфэрэнцыю "Праваслаўная духоўнасьць і адукацыя ў новым тысячагодзьдзі" (VIII Сьвята-Эўфрасіньнеўскія чытаньні), на якой, сярод іншага, абмяркоўвалася патрэба ўвядзеньня ў школах праваслаўнай адукацыі ў форме факультатываў.**

Удзельнікі канфэрэнцыі на ўсялякі манер паўтаралі фразу А.Лукашэнкі аб тым, што ў Беларусі 80% насельніцтва праваслаўныя. Таму пад рэлігійнай разумелася адукацыя праваслаўная. Удзельнікі канфэрэнцыі (з высокіх асобаў прысутнічалі мітрапаліт Філарэт і намесьніца міністра адукацыі Т.Кавалёва, рэгіёны былі прадстаўленыя дырэктарамі школаў, кіраўнікамі адукацыйнай "вэртыкалі") казалі, што праваслаўная адукацыя ў школе неабходная дзеля супрацьстаяньня сэктам і дзеля гуманізацыі адукацыйнага працэсу.

На пытаньні адносна ролі іншых традыцыйных рэлігій і канфэсій у беларускім грамадзтве было заўважана, што пры ўсім унёску іх у беларускую культуру, маўляў, менавіта праваслаўе мусіць атрымаць прыярытэтнае становішча як канфэсія, "маральныя нормы якой сталі аснаватворнымі для беларускай дзяржавы".

Пры гэтым на самой канфэрэнцыі былі агучаныя вынікі сацыялягічных апытаньняў: праваслаўнымі запісваюцца 62% грамадзянаў, але толькі 27% наведваюць царкву і адзначаюць праваслаўныя сьвяты.

І гуманізацыя школе насамрэч патрэбная, і пагроза грамадзтву ад дэструктыўных сэктаў застаецца. Але нешта сумнеў бярэ, ці ўрокі праваслаўя дадуць карысьць. А раптам дзеці будуць даваць лататы ад барадатых настаўнікаў у кірунку сэктаў яшчэ ахвотней, чым раней?

Гуманізацыя школы патрабуе перагляду школьных праграмаў, увядзеньня новых мэтодык выкладаньня і выхаваньня. Напрыклад, у Нямеччыне ўводзяць урокі мэдытацыі і ўрокі цішыні, калі цягам гадзіны ўся кляса маўчыць і думае. Гэта, мяркуюць немцы, мусіць спрыяць выхаваньню гарманічнай асобы. Нашыя ж праграмы, арыентаваныя на матэрыялістычны сьветагляд ("ад малпы"), непазьбежна ўвойдуць у супярэчнасьць з "Законам Божым" ("ад Адама"), што выкліча толькі дыскрэдытацыю апошняга ў вачах вучняў. Разумеюць гэта і ў Міністэрстве адукацыі.

Намесьніца міністра, пагаджаючыся зь неабходнасьцю ўвядзеньня факультатываў па рэлігійнай адукацыі, адзіная з выступоўцаў казала, што школа мусіць заставацца сьвецкай. Аднак яе прамова засталася без апляддысмэнтаў. А вось прадстаўнікі рэгіёнаў у сваіх выступах засьведчылі, што на месцах поўным ходам ідзе супрацоўніцтва з царквой і ўводзяцца факультатывы па асновах праваслаўнай этыкі.

Складаецца ўражаньне, што дырэктары школаў толькі чакаюць адпаведнай урадавай дырэктывы, каб гэтая тэндэнцыя ўвасобілася ў рэальных зьменах прадметнага складу школьных курсаў. Улічым, што Закон аб свабодзе веравызнаньня (ён лічыцца самым рэпрэсіўным у Эўропе) надае праваслаўю прыярытэтнае становішча.

На канфэрэнцыі дагаварыліся нават да таго, каб патрыятычнае выхаваньне праводзіць супольна з... казацкім рухам у Беларусі. Відаць, з духоўнымі пераемнікамі тых самых казакоў, якія вынішчылі ў свой час палову насельніцтва Падняпроўя. Затое крытыкавалася ўвядзеньне ў школах новага экспэрымэнтальнага курсу — валеалёгіі, асноваў сэксуальнага выхаваньня. Была прынятая пастанова патрабаваць ад Міністэрства адукацыі забароны дадзенага курсу ў дзяржаўных школах.

Шавінізм і кансэрватызм праваслаўнай царквы мала каго зьдзіўляе. А вось збліжэньне яе зь дзяржаўнымі структурамі пераходзіць ужо ў стадыю рэалізацыі інтарэсаў царквы дзяржаўнымі сродкамі.

**Аляксей Бацюкоў, Магілёў**

Працяг са старонкі 1.

# Выбары перад Калядамі

У Літве жартуюць: нельга называць літоўцаў "нацыяй, якая вымірае", журналісты пасьпяшаліся з высновамі пасьля вынікаў нядаўняга перапісу. Хай сабе нараджальнасьць невысокая, але якая прагрэсія палітычнай актыўнасьці! Ды 17 кандыдатаў — гэта не адзіны кур'ёз выбарчае кампаніі.

## Брат на брата

За пасаду гэтым разам змагаюцца, не зважаючы ні на партыйную прыналежнасьць (як старшыня Саюзу лібэралаў Літвы (СЛЛ) Эўгеніюс Гентвілас і сябар СЛЛ журналіст Вітаўтас Матулявічус), ні на крэўнае сваяцтва — як той самы Матулявічус і яго родны брат Альгімантас.

Самая папулярная ў Літве — цяпер кіроўная партыя сацыялдэмакратаў, але яе лідэр, прэм'ер А.Бразаўскас, у выбарах ня ўдзельнічае. Іншая буйная палітычная сіла Літвы — партыя кансэрватараў "Саюз Айчыны" — падтрымлівае кандыдатуру цяперашняга прэзыдэнта Валдаса Адамкуса, які мае найвышэйшы рэйтынг. Апрача В.Адамкуса, ёсьць яшчэ два кандыдаты, якія не жылі ў Літве да незалежнасьці. Адзін зь іх — колішні сябар і калега В.Адамкуса, амэрыканскі літовец, актыўны грамадзкі і палітычны дзяяч Казіс Бобяліс (парлямэнтар, лідэр партыі хрысьціянскіх дэмакратаў). Другі — аўстралійскі літовец, бізнэсовец Ёзас Пятрайціс.

Сярод кандыдатаў — лідэры многіх партыяў: лідэр сацыял-лібэралаў Артурас Паўлаўскас, лідэр лібэральных дэмакратаў Раландас Паксас, Казімера Прунскене, што кіруе саюзам Сялянскай партыі і партыі Новых дэмакратаў, кіраўнік партыі "Сацыял-дэмакратыя—2000" Рымантас Дагіс, кіраўнік Цэнтрысцкага саюзу Кястуціс Главяцкас.

## Адамкус наперадзе

Вынікі апошніх сацыялягічных дасьледаваньняў сьведчаць, што за В.Адамкуса гатовыя галасаваць 34,3% рэспандэнтаў. Пасьля В.Адамкуса найбольшую колькасьць галасоў маюць цяперашні старшыня Сойму А.Паўлаўскас — 10,6%, Р.Паксас — 6,6% і К.Прунскене — 4,8%. Рэйтынгі ўсіх траіх за мінулы месяц узьняліся. Праўда, К.Прунскене апярэдзіў вядучы гумарыстычнай перадачы Вітаўтас Шэрэнас — 6,6%, што сталася яшчэ адным кур'ёзам сёлетняй кампаніі — зрэшты, кур'ёзам сумным. Як зазначыў штотыднёвік "*Šiauries Atėnai*" ("*Паўночныя Атэны*") — адно з найбольш сур'ёзных выданьняў Літвы, — гісторыя з В.Шэрэнасам, прынамсі, дае падставы задумацца, колькі людзей у Літве асноўную інфармацыю атрымоўваюць толькі праз "*Dviracių žinios*".

"*Dviracių žinios*" ("Навіны ровараў") — папулярная вечаровая перадача, толькі зь якой В.Шэрэнас і вядомы. Гэта гумарыстычныя штодзённыя навіны на незалежным літоўскім канале *LNK*, перадача даволі легкадумная і павярхоўная, бадай, бульварнага кірунку. У сьпісе кандыдатаў В.Шэрэнас і прадстаўлены як "вядоўца тэлеперадачы", ніякая партыя яго кандыдатуру не падтрымлівае. Ніякага досьведу палітычнае працы В.Шэрэнас ня мае, яго перадвыбарная праграма досыць цьмяная. Затое ён — штовечары на тэлеэкране, у перадачы, якую ахвотна глядзяць і абмяркоўваюць па ўсёй Літве, яго кандыдатуру падтрымлівае найтаньнейшая ў краіне скандальная бульварная газэта "*Vakarines naujenos*" ("Вечаровыя навіны").

Бальшыня кандыдатаў ня мае нават тэарэтычных шанцаў быць абранымі. Чаму ж іх гэтак шмат? Адна з прычынаў — нескладанасьць працэдуры рэгістрацыі. Ахвотным стацца кандыдатам у кіраўнікі Літвы трэба падаць у Вышэйшую выбарчую камісію заклад у 5,5 тыс. літаў (каля 1,6 тыс. даляраў), які вяртаецца пасьля падачы сабраных 20 тыс. подпісаў, неабходных для рэгістрацыі. Нават на выбарах у літоўскае раённае самакіраваньне кандыдаты рызыкуюць больш.




**Два прэзыдэнты. Ці паўплывае візыт Джорджа Буша (зьлева) у Вільню на рэйтынг Валдаса Адамкуса?**

## Непапулярны кандыдат

Невялікае зьніжэньне рэйтынгу В.Адамкуса тлумачаць ягонай занятасьцю перад сустрэчай у Празе і візытам прэзыдэнта ЗША ў Літву, а таксама падзеньнем папулярнасьці Партыі кансэрватараў, якая падтрымлівае яго кандыдатуру. Аднак папулярнасьць партыі — зусім не гарантыя посьпеху для кандыдата. Самая папулярная партыя ў Літве — сацыял-дэмакраты. І менавіта яе кандыдат, Віценіс Андрукайціс, паводле апошняга рэйтынгу, апынуўся на 13-м месцы па сваёй папулярнасьці. Сацыял-дэмакраты сабраліся на тэрміновы сход і пастанавілі адклікаць кандыдатуру В.Андрукайціса, але ён сам на гэты сход не зьявіўся — паехаў на сустрэчу з выбаршчыкамі. А.Бразаўскас адмовіўся даваць інтэрвію наконт гэтага і толькі неахвотна адказаў журналістам, што гэта ўсё "ўнутрыпартыйныя справы". Мэдыі ж паведамілі, што сацыялдэмакраты болей не падтрымліваюць В.Андрукайціса. Але ніякай афіцыйнай заявы партыя пакуль не зрабіла. Рэклямныя плякаты Андрукайціса з подпісам А.Бразаўскаса "падтрымліваю" засталіся некранутыя. А выбаршчыкі канчаткова заблыталіся: калі адзін зь лідэраў сацыял-дэмакратаў — не кандыдат ад гэтай партыі, дык каго ён прадстаўляе? А калі А.Бразаўскас па-ранейшаму падтрымлівае В.Андрукайціса, дык чаму адкрыта пра гэта не заяўляе?

## Ня так трымаўся

У Літве кожны ведае — вельмі шмат пра гэта пішацца і гаворыцца, — што прэзыдэнт абавязаны, паводле Канстытуцыі, займацца толькі замежнай палітыкай, ахоўвай краю і часткова заканадаўчымі ініцыятывамі — таму на абяцанкі кандыдатаў "навесьці парадак", "павялічыць пэнсіі і заробкі" людзі глядзяць скептычна альбо проста не зважаюць. Абіраючы прэзыдэнта, літоўцы абіраюць імідж сваёй краіны ў сьвеце ды кірунак замежнае палітыкі. Таму зусім мала ўзьняўся рэйтынг Артураса Паўлаўскаса — літоўцам не спадабаліся ягоныя паводзіны падчас апошняе паездкі ў Маскву, дзе ён "не трымаўся з належнай годнасьцю" (А.Паўлаўскас на мінулых выбарах ішоў амаль нароўні з В.Адамкусам).

## Прунскене і замежныя спэцслужбы

Важнай часткай іміджу выбаршчыкі лічаць і рэпутацыю кандыдата. Заўважна зьнізіліся рэйтынгі тых, каго апошнім часам зьвілі на падманах. Так, вышэйшая выбарчая камісія патрабуе ад К.Прунскене, каб уся яе перадвыбарная рэкляма абавязкова ўтрымлівала паведамленьне: "супрацоўнічала з КГБ". Бо ў Літве існуе такая пастанова: кандыдат у прэзыдэнты, які супрацоўнічаў з замежнымі спэцслужбамі, абавязаны нагадваць пра гэта ў кожнай сваёй рэкляме і паведаміць у заяве аб рэгістрацыі. Хоць К.Прунскене зьбіраецца аспрэчыць абвінавачаньні ў судзе, які мае адбыцца ў сярэдзіне сьнежня.

## Аўстралійскі бізнэсовец

Адметнасьцю выбараў у Літве сталіся гісторыі з двайным грамадзянствам кандыдатаў — тых, хто да незалежнасьці жыў па-за межамі краіны. Так, скандал вакол амэрыканскага грамадзянства К.Бобяліса зьбіў ягоны рэйтынг на 4% — удвая. Кандыдат часта казаў, што даўно адмовіўся ад грамадзянства ЗША. Але нечакана выявілася, што ён зрабіў гэта толькі сёлета ў кастрычніку. Паводле рэйтынгу кандыдатаў, ён быў на другім месцы, а цяпер апынуўся на сёмым.

Яшчэ адзін кандыдат, 45-гадовы Ё.Пятрайціс, да апошняга моманту меў ня толькі літоўскае, але яшчэ і аўстралійскае грамадзянства, хоць жыў і займаўся бізнэсам у Літве ўжо болей за 10 гадоў. Ё.Пятрайціс ледзьве пасьпеў апошняга дня рэгістрацыі адмовіцца ад аўстралійскага грамадзянства, а прэса тым часам шырока камэнтавала гэтую гісторыю. Калі спачатку ён запомніўся большасьці літоўцаў тым, што "малады" і "абяцае ствараць міні-калгасы", дык цяпер першае, што кажуць, узгадаўшы ягонае імя: "А-а, гэты аўстралійскі бізнэсовец..."

## Сымпатызант Лукашэнкі

Адзін з кандыдатаў — парлямэнтар Юліюс Весялка — падзівіў Літву сваімі выступамі ў абарону Лукашэнкі. Ён пратэставаў, калі Сойм падтрымаў пазыцыю Эўразьвязу адносна апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Ю.Весялка тады заявіў, што Літва мусіць прызнаць выбары ў Беларусі легітымнымі, бо гэта былі "самыя сапраўдныя дэмакратычныя выбары". Паводле апошняга апытаньня, рэйтынг гэтага кандыдата за кастрычнік вырас ад 1,9% да 2,1%, цяпер Весялка займае 11-ае месца. Ягоная кандыдатура была зацьверджаная ў апошні дзень рэгістрацыі. Камісія знайшла ў ягоных выбарчых лістах болей за 5 тыс. подпісаў неіснуючых людзей. Але, згодна з законам, Весялка быў зарэгістраваны: ён набраў 22,9 тыс. сапраўдных подпісаў. "Я ім заўсёды казаў — лепш меней, але запаўняйце сумленна, — адказаў Ю.Весялка, калі ў яго запыталіся, як ён ацэньвае падробку подпісаў. — Гэта ж ня я падрабляў.".

## Вораг Літвы – вораг ЗША

Найбольш непакоіць аналітыкаў пагроза другога туру выбараў. Для краіны гэта азначае лішнія выдаткі, безь якіх хацелася б абысьціся. Аналітыкі прадказваюць, што цяпер рэйтынг В.Адамкуса можа ўзьняцца, з улікам ягонай бездакорнай рэпутацыі і значнага посьпеху замежнай палітыкі, у тым часе як фінансавы цяжар далучэньня да *NATO* выбаршчыкі яшчэ не пасьпеюць адчуць. В.Адамкус выканаў прынамсі адно сваё перадвыбарнае абяцаньне — адкрыць Літве шлях у Эўразьвяз і далучыць да *NATO*. А навошта літоўцам *NATO*, добра патрапіў растлумачыць Дж.Буш падчас свайго выступу на Ратушавым пляцы ў Вільні: "Цяпер кожны, хто абірае сваім ворагам Літву, абірае сабе ў ворагі й Амэрыку".

Наперадзе другі этап перадвыбарнай кампаніі, калі пачнуцца выступы і дэбаты на публічным тэлеканале і дзяржаўным радыё. Усе кандыдаты маюць роўны этэрны час — 50 хвілінаў. Выступы кандыдатаў пераважна будуць у выглядзе дэбатаў, толькі вядучы-гумарыст В.Шэрэнас скарыстаецца з свайго часу на тэлевізіі адмысловым чынам — наладзіць уласную агітацыйную перадачу.

**Тацяна Поклад, Вільня**



















В. АДАМКУС А. ПАЎЛАЎСКАС Р. ПАКСАС В. ШЭРЭНАС К. ПРУНСКЕНЕ К.БОБЯЛІС

# Жывучыя вірусы

**За 50 гадоў, падчас якіх антыбіётыкі актыўна ўжываюцца чалавекам (у якасьці лекаў і прафіляктычных дабавак да камбікорму для птушкі і свойскай жывёлы), мікраарганізмы навучыліся супрацьстаяць ім — выпрацавалі мэханізм прыстасоўваньня. Хворы, які трапляе ў клініку, рызыкуе "падчапіць" шпітальныя штамы (віды) мікраарганізмаў, якія вызначаюцца ўстойлівасьцю да антыбіётыкаў. Яны могуць выклікаць цяжкія захворваньні ў людзей з аслабленай імуннай сыстэмай, імунадэфіцытам, а таксама ў тых, хто прымаў антыдэпрэсанты або мае патрэбу ў перасадцы касьцявога мозгу ці тканак.**



Сёньня ў сьвеце выпускаецца больш за 500 разнастайных відаў антыбіётыкаў, і да многіх зь іх мікраарганізмы прыстасоўваюцца. Дзеля вывучэньня таго, як адаптуюцца хваробатворныя вірусы ды бактэрыі да лекаў, на базе Беларускага НДІ эпідэміялёгіі і мікрабіялёгіі (БелНДІЭМ) ствараецца адмысловы Цэнтар каардынацыі навукова-прыкладных дасьледаваньняў у галіне ўстойлівасьці мікраарганізмаў да антыбіётыкаў. Як кажа старшая навуковая супрацоўніца лябараторыі клінічнай і экспэрымэнтальнай мікрабіялёгіі БелНДІЭМ Тацяна Ермакова, мікраарганізмы, устойлівыя да пэўных антыбіётыкаў, найчасьцей узьнікаюць з-за некантраляванага ўжываньня гэтага віду лекаў: "Ня трэба ўжываць антыбіётыкі прафіляктычна, як гэта робяць многія. Ня варта выкарыстоўваць іх і эмпірычна, як гэта прызвычаіліся раіць дактары: давайце, маўляў, паспрабуем гэтыя лекі, а не падыдуць — скарыстаем новыя. Такое ўжываньне і вядзе да зьяўленьня ўстойлівых мікраарганізмаў".

Праблема ўстойлівасьці вірусаў і бактэрыяў да антыбіётыкаў існуе ва ўсім сьвеце. Дасьледаваньнямі ў гэтай галіне апякуецца Сусьветная арганізацыя аховы здароўя. Замежны досьвед будзе ўлічаны і пры стварэньні нашага Цэнтру. Дарэчы, самы блізкі з замежных цэнтраў, які вывучае ўстойлівасьць мікраарганізмаў да антыбіётыкаў, разьмяшчаецца ў Смаленску, пры тамтэйшай мэдычнай акадэміі. Зь ім і зь іншымі цэнтрамі ў СНД нашыя навукоўцы падтрымліваюць шчыльныя кантакты. У траўні 2003 г. яны плянуюць зладзіць міжнародную канфэрэнцыю. У ёй возьмуць удзел спэцыялісты з усяе Эўропы і ЗША.

# Крах фізыка-ашуканца



**32-гадовы доктар Ян Гендрык Шон, адзін з найбольш вядомых сучасных фізыкаў, нядаўна быў афіцыйна прызнаны за навуковага ашуканца і звольнены з працы ў слынных амэрыканскіх *"Bell Laboratories"*.**

Слава пра яго разьлягалася па ўсім сьвеце. У Шона зь першага разу атрымліваліся самыя сьмелыя экспэрымэнты, пра якія іншыя маглі толькі марыць. Ён сканструяваў першы арганічны паўправадніковы лазэр, вынайшаў першы звышправадніковы арганічны палімэр, у часопісе *"Science"* апісаў дзеяньне транзыстара, які складаецца з адной толькі хімічнай малекулы! Гэты трыюмф нанатэхналёгіі рэдакцыя *"Science"* ўганаравала тытулам "Пераломнае адкрыцьцё 2001 г.". І раптам, калі ўжо здавалася, што Нобэлеўская прэмія — толькі пытаньне часу, над навуковай кар'ерай доктара Шона згусьціліся чорныя хмары.

Па-першае, шторазу дзіўнейшым здавалася тое, што апроч ягонай каманды з *"Bell Laboratories"* аніводная іншая група была ня ў стане атрымаць гэткія вынікі. А на пачатку 2002 г. хтось заўважыў, што Шонавы экспэрымэнты ілюструюцца дакладна тымі самымі графікамі й лічбамі, што і досьледы навукоўцаў, якія зазналі няўдачу. Кіраўніцтва канцэрну *"Lucent"*, да якога належаць *"Bell Laboratories"*, стварыла незалежную камісію на чале з доктарам Малкалмам Бісьлі, прафэсарам фізыкі Стэнфардзкага ўнівэрсытэту. Днямі камісія апублікавала справаздачу службовага расьсьледаваньня, давёўшы, што доктар Шон маніпуляваў зьвесткамі пра ўласьцівасьці розных матэрыялаў і прыстасаваньняў і перайначваў іх на сваю карысьць. Апроч таго, ён не захаваў арыгінальных зьвестак і запісаў вымяральных прыбораў у кампутары, тлумачачы гэта занадта малым аб'ёмам апэратыўнай памяці. "Такія дзеяньні цалкам непрымальныя і зьяўляюцца навуковым злачынствам", — вось выснова камісіі.

Гэтак скончылася надоўгая бліскучая кар'ера Яна Гендрыка Шона, распачатая ў 1997 г., калі яго, маладога дактаранта зь нямецкага Канстанцу, запрасіў у *"Bell Laboratories"* доктар Бэртрам Батлаг. Апошні ў той час спрабаваў атрымаць танныя арганічныя матэрыялы, праводны пластык, які б мог замяніць у электроніцы дарагі крэмень. Першыя экспэрымэнты Шона былі няўдалымі. І толькі зь лютага 2000 г., неўзабаве пасьля ад'езду Б.Батлага на працу ў Швайцарыю, малады фізык пачаў "прадукаваць" навуковыя адкрыцьці адно за адным.

У адказ на заключэньне камісіі Шону заставалася толькі пакаяцца ў сваіх ашуканствах.



# З жыцьця прусакоў

**Навукоўцы працягваюць дасьледаваць фізіялёгію самых брыдкіх насякомых.**

Жыцьцё прусака, невялікай казюркі зь сям'і тараканавых, пачынаецца ў момант, калі яйцаклетка злучаецца са спэрматазоідам і; разам зь іншымі апладненымі яйцаклеткамі, зьмяшчаецца ў капшук у выглядзе цьвёрдай гладкай шкарлупіны. У пэрыяд высьпяваньня капшук белы і толькі нязначна выдаецца з набраклага брушка саміцы. Праз колькі гадзінаў ён ружавее, потым робіцца бэжавым, а праз пэўны час набывае колер сьпелага каштана. Здавалася б, яго можна ўжо адкладаць. Аднак саміца носіць капшук, прычэплены да брушка, яшчэ тыдзень-два — чым вышэйшая тэмпэратура і вільготнасьць, тым менш. Калі б яна адклала яго — зародкі адразу ссохлі б. Але якім чынам маці іх абвадняе? Вучоныя болей за сто гадоў марна расшуквалі хоць найменшую дзюрачку ў сьценцы капшука.

Прафэсар Дональд Мулінз, біёляг зь Вірджынскае палітэхнікі, аглядаў капшукі прусакоў пад сканавальным мікраскопам, які павялічвае ў 250 тыс. разоў. Праз адчувальную апаратуру ён пабачыў невялікія паглыбленьні, заўважныя ў частцы, найбліжэйшай да радзільных каналаў саміцы. Навуковец высунуў гіпотэзу, што яны вядуць да самага нутра капшука. Праз тунэльны мікраскоп, які дазваляе бачыць трохмерныя адбіткі паверхні ў атамным маштабе, ён урэшце ўбачыў тыя мікраскапічныя канальцы.

Д.Мулінз і ягоная каманда высьветлілі, што іх дыямэтр дастаткова, каб прапускаць малекулы вады. Здольныя яны (хоць і павольней за ваду) прапускаць і шчыльнейшыя рэчывы — напрыклад, глюкозу. Аднак, на думку Д.Мулінза, гэта ня значыць, што прусак яшчэ і "корміць" яйцо. Большыя малекулы, што прасочваюцца праз канальцы, ідуць не ад саміцы да зародка, а наадварот. Такім чынам эмбрыёны інфармуюць маці пра ступень свайго разьвіцьця. Дзякуючы гэтаму яна адкладае капшук у самы прыдатны момант — непасрэдна перад тым, як прусакам ільга вылупіцца, — і толькі тады распачынае прадукаваньне наступнага. Цягам 100—150 дзён свайго жыцьця адна прусачыная самка прадукуе ад чатырох да васьмі капшукоў. Першы ўтрымлівае каля сарака яец, наступныя — шторазу менш, у апошнім іх каля трыццаці.

Ад дарослых малыя прусакі розьняцца меншымі памерамі і адсутнасьцю крылаў. Нашыя прусакі ня лётаюць, крылы яны могуць скарыстаць хіба ў якасьці парашута у час падзеньняў. Яшчэ крылы важныя падчас "заляцаньня". Калі прусак-самец спаткае гатовую да размнажэньня саміцу, ён уздымае крылы, варушыць імі, а з адтуліны ў брушку пачынае выдзяляць духмяную субстанцыю. Саміца схіляецца да гэтага "нэктару" і каштуе яго, а самец тым часам павольна і далікатна падлазіць пад яе, шторазу далей і далей, пакуль канцы іхніх целаў не спаткаюцца. Тады самец высоўвае гачак, прымацоўвае ім да партнэркі і зьмяняе пазыцыю: цяпер прусакі становяцца адно да аднаго задам. Гачак увесь час застаецца зачэпнуты. Да саміцы высоўваецца наступная прылада, якая нагадвае вілы, — ёю самец таксама прытрымлівае партнэрку. Толькі цяпер залётнік можа ўзяцца за справу — ягоны палавы орган адпраўляе ў радзільны канал саміцы "пакуначак", запоўнены спэрматазоідамі. Апэрацыя гэтая складаная, цягнецца недзе гадзіну. Будучая маці праз імгненьне гатовая ўжо прыняць наступнага кавалера, але, у прынцыпе, адной удалае блізкасьці дастаткова, каб назапасіць насеньне на ўсё жыцьцё. З гэтага моманту саміца ў стане прадукаваць капшукі рэгулярна кожныя тры тыдні.

Адной саміцы дастаткова, каб гурмы прусакоў у невялікі тэрмін запоўнілі дом, пякарню, гатэль, шпіталь. Прусакі вандруюць з будынку ў будынак. І ажно 85% нованароджаных дажывае да палавой сьпеласьці. Дзякуючы фантастычнай прыстасавальнасьці да разнастайных умоваў, гэтыя інсэкты апанавалі ўсе кантынэнты. Вайна, якую людзі вядуць супраць іхнага племя, цягнецца ўжо больш за 200 гадоў, і пакуль перавага на баку жамяры. Магчыма, цяпер, калі вядома, што капшукі, якія ахоўваюць іхныя яйцы, не такія недаступныя, як раней меркавалася, пашчасьціць вынайсьці атруту, якая вынішчыць праблему ўжо ў зародку.

У сьвеце налічваецца каля 3,5 тысячы відаў тараканаў. Адны адкладаюць яйцы, іншыя жывародныя. У Беларусі жыве блізу дзесяці відаў. Адным зь іх ёсьць вядомы нам прусак. Гэтая невялікая казюрка — самая распаўсюджаная сярод усіх тараканаў. Паходзіць яна з Афрыкі, з трохкутніка, абмежаванага Вялікімі азёрамі, Этыёпіяй і Суданам. Ва Ўсходнюю Эўропу прусак трапіў з грэцкімі й фінікійскімі гандлёвымі караблямі. Найперш заваяваў Бізантыю, пасьля — рэгіён Чорнага мора, паўднёвую Расею, Беларусь, а адсюль праз Польшчу рушыў на захад. Трапіў у Паўночную Амэрыку, адкуль распаўсюдзіўся на поўнач і на поўдзень. Спахапіліся позна — толькі ў сярэдзіне XIX ст., калі ён дабраўся да Брытанскіх астравоў. Туды ён, пэўна, трапіў "кантрабандай" у хлебных кашах жаўнераў, што вярталіся з Крымскай вайны. У Аўстраліі першага прусака вылавілі ў 1893 г.

**А.Ш.**

**У часе падрыхтоўкі матэрыялу выкарыстаныя зьвесткі з *"The Journal of Experimental Biology"*, *"Gazety Wyborczej"***

# Забыты смак “сапяжанкі”

Працяг са старонкі 1.

**Адам Кіркор у выпуску** “*Живописной России*”, прысьвечаным Беларусі, пісаў: “Садоўніцтва вельмі распаўсюджанае ва ўсім Беларускім Палесьсі. Сапраўды, можна сказаць, што няма ніводнага панскага маёнтку, у якім не было б пладовага саду. Шмат садоў у беларускіх гарадах і мястэчках; але найбольш цешыць, што і многія зь сялянаў маюць невялікія пладовыя сады”.

## “Антонаўка” для Эўропы

Беларускае садоўніцтва давала значны прыбытак. Так, нямецкі садавод А.Янсан, які наведаў Расейскую імпэрыю пры канцы XIX ст., сьведчыў: калі на Меншчыне і Магілёўшчыне здымалі яблыкі — кошты на іх зьніжаліся па ўсёй Эўропе. Адпраўленыя ўніз па Дняпры, беларускія яблыкі траплялі на рынкі Міжземнамор’я, а адтуль разыходзіліся па Заходняй Эўропе.

Гэтак было і на пачатку XX ст. Статыстыка сьведчыць, што ў 1900—1902 г. зь беларускіх губэрняў вывезьлі 653 тыс. пудоў яблыкаў, а ў 1911—13 г. — удвая болей, 1242 тыс. пудоў. Найбольш славілася прыдняпроўская “антонаўка” — з-пад Магілёва і Гомелю. А першае месца па экспарце яблыкаў трымалі паветы Гомельскі (48 і 186 тыс. пудоў у адпаведныя гады), Рагачоўскі (36 і 181 тыс. пудоў), Аршанскі (119 і 134 тыс. пудоў), Бабруйскі (95 і 118 тыс. пудоў), Полацкі (118 і 117 тыс. пудоў). Статыстыка падае зьвесткі па экспарце беларускіх яблыкаў у іншыя краі тагачаснай Расейскай імпэрыі у 1911—13 г.: найболей вывезлі ў Санкт-Пецярбург (260 тыс. пудоў), Лодзь (29 тыс. пудоў), Царыцын (26 тыс. пудоў), Варшаву (24 тыс. пудоў), Мікалаеў (21 тыс. пудоў), Адэсу (16 тыс. пудоў), Рыгу (13 тыс. пудоў), Кацярынаслаў (10 тыс. пудоў).

## Грушы ад Лява Сапегі

Тагачасныя назвы яблычных сартоў гучаць як песьня: “антонаўка”, “арабка”, “баравінка” (“харламаўка”), “бойкен”, “бурштынаўка”, “грушоўка”, “кальвіль”, “каштэля”, “крымка”, “малінаўка”, “манастырскі”, “папіроўка”, “пладавітка”, “пуціўка”, “пэпін літоўскі” (“глёгераўка”), “серынка”, “склянка”, “струмілаўка”, “суйсьлепскі”, “тыролька”, “цітаўка”, “цыганка”, “чарнагуз”, “чубатка”, “штрэйфлінг”, “штэцін”...

А грушы! “Бэра слуцкая”, “аляксандраўка” (“шумаўка”, “філонаўка”), “лімонка” (“цытрыноўка”), “сапяжанка”, “цукроўка”, “бэргамот польскі”, “кароль сабескі”, “дуля астэйская”, “маргарыта”, “магдалена паласатая”, “ільінка” (“баба”, “кабах”, “армуд”), “вінеўка”, “панна”, “памаранцавая”, “якубаўка”... Прамаўляеш — і нібы на смак адчуваеш, як салодкі сок ігрушы-“сапяжанкі” запаўняе рот, лашчыць паднябеньне. І сама назва гэтаксама цешыць: ласаваліся ж, мабыць, гэткімі ж грушамі славутыя Сапегі!..

На жаль, вялікія пладовыя сады пачатку мінулага стагодзьдзя да нашага часу не захаваліся. Ёсьць хіба даваенныя, дый тых небагата. Не захавалася і бальшыня сартоў яблыкаў і грушаў, якія нашыя спрытныя продкі каштавалі самі ды вывозілі за мяжу.

## Яблыкі налета

У Беларускім НДІ пладаводзтва кажуць, што зьнікненьне старых сартоў — зьява заканамерная: яны, маўляў, аджылі свой час. Нават дачнікі (ня кажучы пра фэрмэраў, якія закладаюць сады, каб мець грашовую аддачу) больш цікавяцца не старымі сартамі, а навінкамі — тымі, якія менш хварэюць, пачынаюць хутчэй пладаносіць, яблыкі якіх даўжэй захоўваюцца.

Аршанскі фэрмэр Адам Сапешка тлумачыць сваю схільнасьць да новых сартоў прагматычным разьлікам: “Навука ўвесь час рухаецца наперад, прапануе нешта новае. Вось вывелі новыя сарты — больш марозаўстойлівыя, менш падатныя на хваробы, больш ураджайныя”. З новымі сартамі працуе і Віктар Чабатар з Восава, што на Мядзельшчыне: “Мы высаджваем сарты, якія атрымліваем з Інстытуту садаводзтва. Найбольш у нас расьце яблыняў сорту “антэй” і расейскага сорту “вэтэран”. Вельмі прыгожы яблык — “беларускі малінавы” (толькі ня трэба блытаць з “малінаўкай”): і назва гучыць, і ад самога вачэй не адвесьці!”

Сёньня, як цьвердзіць загадчыца аддзелу сэлекцыі БелНДІ пладаводзтва Зоя Казлоўская, ёсьць сарты, лепшыя за “баравінку”, “каштэлю”, “штрэйфлінг”, “антонаўку”, “белы наліў”, “грушоўку”: “Калі садзіш дрэва і яно налета можа даваць плады, ясна, што выбар будзе на карысьць гэтага сорту”.

Старыя сарты і па смаку, і па пладаноснасьці часта саступаюць новым. Так, “каштэля” пачынае пладаносіць толькі праз 9 гадоў пасьля пасадкі. Дае яна салодкія смачныя яблыкі, якія, аднак, хутка пачынаюць гніць зь сярэдзіны. Па сваіх смакавых якасьцях яе можа замяніць сорт “беларускі салодкі”.

Не беззаганныя й іншыя сарты. “Медунічка” хаця і смачная, але вельмі дробная. Яе цяпер замяняе новы сорт “алена” — такі ж салодкі, але буйнейшы.

“Штрэйфлінг” (“штрыфэль”, “восеньскае паласатае”, “грапштэйн”, “гравэнштэйн”) — вельмі распаўсюджаны сорт. У 60-я яго называлі асноўным восеньскім сортам. Але самі яблыкі нялёжкія: пратрымаюцца 2—3 тыдні, а потым пачынаюць гнісьці, чарнець і развальвацца. Іх цяпер пачынае замяняць у садох новы імунны сорт “імант” — яблык цёмнага колеру з прыемным смакам, які захоўваецца да чэрвеня.

“Часам прадаюць чарвівую “папіроўку” і чарвівую “антонаўку” й кажуць, што гэта — нашыя традыцыйныя ўлюбёныя яблыкі. Сёньня гэта не адпавядае ісьціне”, — перакананая З.Казлоўская.

## “Антон” — чэмпіён

Аднак у нечым новыя сарты ўсё ж ніяк ня могуць перасягнуць “старажылаў”. Так, абсалютным чэмпіёнам па колькасьці пасадак у нас застаецца “антонаўка” — 42% ад агульнага ліку, альбо 18582 га. На другім месцы з моцным адставаньнем ідзе “папіроўка” — 3%, альбо 1193 га.

Размаітых відаў “антонаўкі” — безьліч. Ёсьць і з традыцыйным кіславата-салодкім смакам ды непаўторным водарам, і без кісьліны, трапляецца й цьвердаватая “антонаўка-камянічка”...

Здаўна “антоны” садзілі як зімовы сорт. Доўгі час не было іншых яблыкаў, якія б гэтак добра ляжалі ўзімку. “Антонаўку” можна захоўваць да студзеня. Аднак цяпер яе ў якасьці дэсэртнага яблыка замяняе больш лёжкі сорт — “беларускі сінап”, які можна датрываць аж да вясны.

“Антонаўку” ж зьбіраюць пераважна на сок і для замочваньня. Яблычнае віно, напрыклад, найлепшае атрымліваецца якраз з соку “антонаўкі”. Зь яе робяць таксама пэктын для кандытарскіх вырабаў.

## Яблычны музэй

Многія сарты, паводле словаў З.Казлоўскай, трапляюць пад характарыстыку “музэйныя экспанаты”: “малінаўка”, “бойкен”, “каштэля”, “медунічка”, “грушоўка”. Блізкі да гэтага “штрэйфлінг”. У Інстытуце пладаводзтва гэтыя сарты яшчэ захоўваюць, але пакупнікоў на іх амаль няма. Рынак дыктуе свае ўмовы: непрадукцыйныя старыя сарты саступаюць месца новым.

Даўнейшыя беларускія грушы гэтаксама зьнікаюць. “Бэра слуцкая”, на жаль, зусім страціла імунітэт да хваробаў. Ад гэтага пагаршаюцца смак і якасьць пладоў. “Яна сама сябе перажыла”, — кажа З.Казлоўская. Да такіх “музэйных” сартоў грушаў залічваецца таксама “дзюшэс летні” ды “талсінская прыгажуня”. Зь зімовых сартоў разводзяць у нас хіба “беларускую позьнюю”.

Супраць рынкавых патрабаваньняў сказаць што-небудзь цяжка: ніхто ня хоча лёгка разьвітвацца з грашыма. Аднак варта памятаць яшчэ і пра тое, што старыя сарты яблыкаў — такая ж спадчына, як песьні і казкі, цэрквы і палацы. А таксама неацэнная генэтычная спадчына, якая будзе запатрабаваная наступнымі пакаленьнямі сялянаў і навукоўцаў. Добра, што ў Інстытуце пладаводзтва зьберагаюць саджанцы старых сартоў. Каб жа яшчэ стварыць гэткі “жывы музэй” пры якіх-небудзь Строчыцах ці Дудутках — каб там можна было ня толькі ўбачыць архітэктуру і побыт нашых продкаў, але й пакаштаваць яблыкаў ды грушаў, якімі яны ласаваліся.

**Адам Воршыч**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

...А есьлі бы хто ў саду дзерава прышчэпенае гвалтоўне або таемным абычаем парубаў, або шчэп выкапаўшы ў саду ўзяў, тот маець гвалт заплаціці дванаццаць рублей грошай. А за дзерава парубанае або выкапанае — тры рублі грошай.

*Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Разьдзел X “Пра пушчу, пра ловы, пра дзерава бортнае, пра азёры і сенажаці”. Артыкул 15 “Пра пакрадзеньне саду”*

| | 1984 г. | 1998 г. | Суадносіны 1998 г. да 1984 г. (у %) |
|---|---|---|---|
| **Агульная колькасьць яблыняў і грушаў у гаспадарках** | | | |
| Яблыні (шт. дрэваў) | 17.308.530 | 14.022.880 | 81 |
| Ігрушы (шт. дрэваў) | 2.000.024 | 1.461.679 | 73 |
| **Колькасьць яблыняў у сельгаспрадпрыемствах** | | | |
| Берасьцейская вобл. | 1.038.064 | 1.112.389 | 107 |
| Віцебская вобл. | 948.362 | 580.985 | 61 |
| Гарадзенская вобл. | 859.430 | 1.026.903 | 119 |
| Гомельская вобл. | 1.481.984 | 1.397.887 | 94 |
| Магілёўская вобл. | 1.023.395 | 651.818 | 64 |
| Менская вобл. | 1.618.612 | 1.255.343 | 78 |
| Па ўсёй Беларусі | 6.969.847 | 6.025.325 | 86 |
| **Колькасьць яблыняў у прыватных і фэрмэрскіх гаспадарках** | | | |
| Берасьцейская вобл. | 1.598.108 | 1.203.258 | 75 |
| Віцебская вобл. | 1.851.112 | 1.430.713 | 77 |
| Гарадзенская вобл. | 1.493.792 | 1.087.674 | 73 |
| Гомельская вобл. | 1.769.194 | 1.261.390 | 71 |
| Магілёўская вобл. | 1.373.764 | 981.199 | 71 |
| Менская вобл. | 2.252.713 | 2.033.321 | 90 |
| Па ўсёй Беларусі | 10.338.683 | 7.997.555 | 77 |
| **Колькасьць ігрушаў у сельгаспрадпрыемствах** | | | |
| Берасьцейская вобл. | 33.654 | 20.504 | 61 |
| Віцебская вобл. | 5624 | 1404 | 25 |
| Гарадзенская вобл. | 24.808 | 21.245 | 86 |
| Гомельская вобл. | 26.896 | 17.240 | 64 |
| Магілёўская вобл. | 15.204 | 3525 | 23 |
| Менская вобл. | 50.827 | 24.408 | 48 |
| Па ўсёй Беларусі | 157.103 | 88.326 | 56 |
| **Колькасьць ігрушаў у прыватных і фэрмэрскіх гаспадарках** | | | |
| Берасьцейская вобл. | 427.205 | 278.113 | 65 |
| Віцебская вобл. | 126.514 | 122.536 | 97 |
| Гарадзенская вобл. | 270.014 | 182.033 | 67 |
| Гомельская вобл. | 399.542 | 253.406 | 63 |
| Магілёўская вобл. | 242.755 | 180.308 | 74 |
| Менская вобл. | 376.891 | 356.957 | 95 |
| Па ўсёй Беларусі | 1.842.921 | 1.373.353 | 75 |

**Паводле выданьня** “*Плодоводство Республики Беларусь. Статистический сборник (по материалам инвентаризации садов). 1998*”. Менск, 1999.

# Балдук і Балдучыха

## *Блакітныя азёры ў паданьнях і гісторыях*

**Групу Блакітных азёр недарэмна называюць дыямэнтам у каралях Паазер'я. Выглядае мясцовасьць дужа маляўніча: аточаная лясамі цёмна-блакітная роўнядзь вады зьмяняецца ўзгоркамі, вышыня якіх перавышае 50 мэтраў.**

Кожнае з азёраў своеасаблівае: Глубля вызначаецца зялёна-блакітным колерам вады, Балдук — глыбінёй, у Мёртвым ня водзіцца рыба.

Прыгожыя і нехарактэрныя для Беларусі пэйзажы, чысьціня азёр прыцягваюць турыстаў. А калі вам і экскурсавод добры патрапіцца, як краязнаўца з Камарова Іван Драўніцкі, дык ня толькі атрымаеце асалоду ад сузіраньня пекных краявідаў, але й дазнаецеся шмат чаго цікавага.

### Мёртвае возера

Вандроўныя марскія воіны з Скандынавіі — вікінгі — па рацэ Страча трапілі ў край Блакітных азёр. Аблюбавалі яго для жыцьця. Яны сталі несьці тут ваенную службу ў князёў, займацца рыбнай лоўляй. Вызначаліся вікінгі асаблівым умельствам весьці бой на вадзе, сябе лічылі "марскімі ваўкамі". Паводле іх звычаяў, парэшткі памерлых ці загінулых патрэбна аддаваць не зямлі, а вадзе. Вось і выбралі яны для пагосту невялікае бясcточнае возера на левым беразе Страчы. Забітых падчас баявых сутычак воінаў вікінгі хавалі з шанаваньнем, на дно возера апускалі ў дасьпехах. Тых, хто памёр ад старасьці або хваробы, спальвалі, каб хвароба не распаўсюджвалася, а попел таксама апускалі на дно. Гэты вадаём назвалі возерам Мёртвых.

Аднаго дня ішоў з Полацку ў Вільню манах-пілігрым, які чуў пра незвычайнае возера-магільнік і вырашыў пацікавіцца ім. Сьцямнела, надумаў тут і заначаваць. Выбраў месца пад сасной, памаліўся. Толькі пачаў укладацца, як над вадзяной гладзьдзю зазьвінелі званочкі. Глянуў — зь сярэдзіны возера падплывае да берага караб, поўны скарбаў. Манах абхапіў яго, паставіў пад сасну і стаў разглядаць. На хвіліну ім авалодала сквапнасьць: вось, думае, скарбаў хопіць, каб усё жыцьцё правесьці ў багацьці.

А потым сумненьні яго ахапілі: "А можа, гэта нячыстая сіла мяне спакушае?"

Дрыготкай рукой ён перахрысьціў караб. Узьняўся віхор, закруціў верхавіну сасны, і зноў усталявалася цішыня. Потым з вышыні пачуўся мілагучны жаночы голас:

— Ты, высакародны манах, зрабіў правільна. Табе я даю ганаровае даручэньне: вазьмі з караба сэрдалікавую залатую брошку і занясі ў Вільню да абраза Маці Божай Вастрабрамскай. Гэта падарунак ад Полацкай зямлі, ад Эўфрасіньні...

Манах выканаў даручэньне.

А сасна з закручанай верхавінай стаяла некалькі соцень гадоў і была цудадзейнай. Да яе прыходзілі самотныя і пакрыўджаныя, дзяліліся сваім горам і атрымлівалі душэўную палёгку. З гадамі старая сасна ўпала, а на яе месцы вырасла маладая з такой самай закручанай верхавінай. Яна таксама валодае ўласцівасьцю здымаць душэўны цяжар, чым часта карыстаюцца мінакі ды турысты. А возера гэта любіць цішыню, гасіць розныя гукі і паглынае рэха.

### Панская дарога

У старажытныя часы сувязь паміж мясцовасьцямі ажыцьцяўлялася па рэках. І Страча была шляхам зносін паміж Полацкай зямлёй і Вільняй. Потым уздоўж рэчак пачалі рабіць дарогі — зьявілася такая і ля Страчы. А як зрабілі Полацкі тракт, то патрэбы ў гэтай дарозе ня стала. Але паны вырашылі яе выкарыстоўваць пасвойму. Дарога праходзіла па ўзвышшах, навокал — прыгожыя краявіды: рэчка, азёры. Паны брычку запрагуць і ўперад, на прагулку. Дрэвы павысякалі, каб з вышыні добра было ўсё відаць. Самі паны каталіся, гасьцей вазілі па гэтай дарозе.

### Балдук і Балдучыха

Сярод дрымучых лясоў, дзе цяпер красуюцца азёры Балдук і Балдучыха, стаяла вёска. Жылі ў ёй працавітыя людзі: гадавалі жывёлу, палявалі, лавілі рыбу. Усё здабытае дзялілі па справядлівасьці. Ля кожнай хаты расла рабінка, зь ягад і зёлак умелі рабіць лекі ад розных хвароб.

Але пасьля таго як у навакольлі зьявіўся злы вядзьмар, жыцьцё ў вёсцы разладзілася. Заразіў ён людзей зайздрасьцю, сквапнасьцю, утрапёнасьцю. Дзеці перасталі паважаць бацькоў, бацькі апекавацца дзецьмі, брат пайшоў на брата. Быў сярод вяскоўцаў мудры, паважаны ўсімі чалавек — вяшчун. Двойчы ўжо ратаваў ён вёску: раз ад голаду і раз ад пошасьці. І паводле законаў магіі мог зрабіць гэта толькі тройчы. Варажнечa сярод людзей зайшла так далёка, што была страшнейшай за голад і пошасьць. Вяшчун стаў рыхтаваць чарадзейнае зельле. У гэты момант да яго прыйшоў вядзьмак, зарагатаў: "Дарэмна стараешся, вяскоўцы сапсаваліся канчаткова. Хаця ты выведаў сакрэт чароўнага зельля, але ня знойдзеш людзей, каб згадзіліся на ахвярнасьць дзеля другіх, — б'юся аб заклад. Я нашлю на вёску бяду, і калі хоць дзясятая частка тваіх суседзяў паклапоціцца пра іншых, то я адступлюся, у вёсцы запануе дабрыня. А калі не, то ня жыць людзям у гэтай прыгожай мясьціне".

Вяшчун спадзяваўся на разважнасьць сваіх аднавяскоўцаў, верыў, што падчас усеагульнай бяды яны згуртуюцца, не пакінуць блізкіх. Чарадзейнае зельле паказала, што выратаваць людзей ад бяды з дапамогай цудадзейнай вады змогуць Балдук і Балдучыха, бо іх сэрцы не заплямленыя ніякімі хібамі. Цёмнай купальскай ноччу Балдук і Балдучыха пайшлі ў лясную глухамань па чароўную ваду. Крычалі совы, чуліся патаемныя шоргаты, страшныя цені нейкіх пачвар суправаджалі іх, але яны дайшлі да цудадзейнай крыніцы, якая пырскала з-пад гары, і набралі вады. Калі вярнуліся ў вёску, то ўзьняўся вецер, пачаў ламаць, крышыць арабінкі, зрываць стрэхі з хат, стаў лупіць пярун, а зь неба, бы з магутнай ракі, хлынула вада. Людзі ад страху павыскоквалі з хат, ратаваў кожны сам сябе, ні пра дзяцей, ні пра хворых ніхто ня думаў. Вада залівала вуліцы, людзі сталі ўзьбірацца на стрэхі, залазіць на дрэвы. Балдучыха выліла частку вады са збаночку, і навальніца адразу супакоілася. А людзіператварыліся ў буслоў і, цяжка ўзмахваючы крыламі, пачалі пакідаць вёску, разьлятацца ў розныя бакі. Як толькі краналіся зямлі, зноўку ператвараліся ў людзей. Яны заснавалі новыя вёскі: ад Барыса пайшла вёска Барысы, ад Янука — Януковічы, ад Яцака — Яцыны. Балдук і Балдучыха, сьведкі гібелі роднай вёскі, стаялі, трымаючыся за рукі, а потым расталі, ператвараліся ў азёры. Як яны трымаліся за рукі, то і цяпер азёры Балдук і Балдучыха зьвязаны між сабой рукой-пратокай. Рэшткі чароўнай вады са збаночка распырскаліся па наваколльі і па сёньняшні дзень сьцякаюць у азёры дзясяткамі крыніц.

**Запісаў Алесь Высоцкі,**
**Паводле "Рэгіянальнай газеты"**


**Азёры Балдук і Балдучыха зьвязаны між сабой рукой-пратокай. У старажытных легендах яны таксама трымаюцца за рукі.**


ДЗЯНІС РАМАНЮК

**Насустрач легендам**



**Група азёр Глубля, Глубелька, Балдук, Ячмянёк, Мёртвае і іншых, разьмешчаная на тэрыторыі Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў. З 1972 г. мясьціны набылі статус дзяржаўнага ляндшафтна-гідралягічнага заказьніку, цяпер уваходзяць у Нацыянальны парк "Нарачанскі".**

тэлебачаньне

# Увага, здымаю жыцьцё!

**Жыхарка Беларусі на нежылым востраве ў Паўднёва-Кітайскім моры — гучыць незвычайна. Калі ж улічыць, што гэта не каштавала ёй шалёных грошай, а наадварот — вабіць неблагім прыбыткам, сытуацыя робіцца яшчэ цікавейшай. Як ужо зразумеў чытач, такое можа здарыцца толькі на тэлебачаньні. А дакладней — у расейскай праграме "Апошні герой" на канале АНТ, куды й трапіла беларуска Ксеня.**



Беларуска Ксеня Волкава — удзельніца "Апошняга героя".

Трэба жыць на вялікай крызе ў Паўночна-Ледавітым акіяне, каб не паддацца ўплыву *"reality show"*, якія абрынуліся на гледача з тэлеканалаў. Сотні тысячаў людзей сталіся сапраўднымі фанамі жыцьця "за шклом", "апошніх герояў" ды "трэціх лішніх". Шоў рэальнага жыцьця — зьява ня новая. Яе карані сягаюць у сярэдзіну мінулага стагодзьдзя, калі амэрыканскі канал *CBS* запусьціў праграму *"Wanted"* ("У вышуку"), якая рэгулярна зьяўлялася ў этэры з кастрычніка 1955-га да студзеня 1956 г. Аўтар выбіраў якую-небудзь крымінальную справу й сам яе расьсьледаваў: з дапамогай інтэрвію, якія ён браў у родных падазронага альбо ў афіцыйных асобаў, што вялі справу, ён часта выходзіў на сьлед злачынцы й рэальна дапамагаў сьледзтву. Праграма ўмомант падвысіла рэйтынг каналу. Пасьля адбыўся выбух папулярнасьці такога кшталту перадач — як у Амэрыцы, так і ў Эўропе. Шырока разрэклямаваная расейская праграма "За шклом" — аналяг брытанскага шоў *"Big Brother"* ("Вялікі Брат"), якое атрымала сваю назву з раману Джорджа Оруэла "1984".

Шоў набывалі й набываюць самыя розныя формы. Калі раней усё было аднясна бясшкодна і абмяжоўвалася назіраньнем за жыцьцём якойсьці сям'і, што згадзілася на такі экспэрымэнт, дык апошнім часам праграмы становяцца больш разнастайныя. Адзін з апошніх праектаў тэлеканалу *"Fox"* — *"Temptation Island"* ("Востраў спакусаў"), дзе правяраюцца пачуцьці маладых людзей. Выбраныя для ўдзелу ў перадачы пары разьдзяляюць, дзяўчыну селяць у абсталяваны лягер разам з 13 прыгожымі моцнымі мужчынамі, а хлопца, адпаведна, пакідаюць сам-насам з 13 пекнымі дзяўчатамі. Калі камусьці зь іх удасца спакусіць — гульня прайграная. Перадача выклікала шырокі рэзананс і пратэсты, а некаторыя кампаніі нават адмовіліся ставіць рэкляму ў "супярэчлівае й агіднае" шоў.

Чаму гэтыя перадачы такія папулярныя? На розум адразу прыходзяць дзьве прычыны: грошы й слава. Менавіта грошы прымушаюць людзей есьці жукоў альбо даваць нырца ў акіян. Прыкладам, пераможца амэрыканскай праграмы *"Survivor"* ("Ацалелы") атрымлівае мільён даляраў. Імкненьне да вядомасьці таксама адыгрывае немалую ролю. Але ніхто ня можа даць гарантыю, што імёны герояў *"reality show"* ня будуць забытыя праз год ці два.

Калі матывацыя ўдзельнікаў больш-менш паддаецца рацыянальнаму тлумачэньню, дык прычыны, зь якіх мільёны гледачоў ва ўсім сьвеце не адрываюцца ад экрану падчас такіх перадачаў, ляжаць нашмат глыбей. Жаданьне падгледзець жыцьцё іншых, прыўзьняць заслон чужых таямніцаў існуе ў падсьвядомасьці чалавека. Ідэя стаць Вялікім Братам, які з вышыні назірае за сваімі падначаленымі, апанавала розумы гледачоў. Замест сямейнай вячэры ці сяброўскай размовы людзі аддаюць перавагу тэлебачаньню, якое трансьлюе тое самае "рэальнае жыцьцё". І часам гледачы самі не разумеюць, у якім сьвеце жывуць. Але ў сапраўднасьці пануе непераможны закон: калі чагосьці зашмат, яно перастае быць запатрабаваным. І можа надысьці час, калі тое, што раней выклікала шалёную цікавасьць, будзе ўспрымацца як звычайная руціна. А пакуль рэжысэры жыцьцяў удала выкарыстоўваюць момант і прапануюць сваім гледачам новыя й новыя варыянты задавальненьня іхнай патрэбы ў падгляданьні. Праўда, шукаць наступныя абалонкі ім робіцца ўсё цяжэй.

**Ян Мацур**

# Auf Wiedersehen!

## *Памяці "ARCHE-Скарыны"*




**Артыкул Пятра Ламана ў "НН" ад 18 кастрычніка знайшоў вычарпальную антытэзу ў наступным нумары, у артыкуле Сяргея Харэўскага "Наш прымітывізм". Шматгадовага аўтара "НН" і "Вострай брамы" нельга падазраваць у спробе адпрэчыць шляхетны зьмест выступу вядомага артыста і паэта, але ягоны тэкст у чарговы раз засьведчыў, што тая беларуская інтэлігенцыя, якую мы прызвычаіліся зваць адраджэнскай, надае нашмат болей увагі пытаньню, як трэба гаварыць з народам, чым таму, як гаварыць міжсобку.**

Перагортваю новыя часопісы, заяўленыя як незалежныя, — "Дзеяслоў", "ARCHE" — у пошуках праблемнага матэрыялу. Адчуваньне, як у наведніка савецкага ўнівэрмагу, які ўзяліся абслугоўваць два японцы. На ўваходзе стаіць адзін і кажа: "Ніцога нямашака, ніцога нямашака!", а на выхадзе — другі: "Пераканаліся? Пераканаліся?"

Дзе знайсьці сур'ёзны роздум кампэтэнтных людзей на тэмы, важкія для нашага грамадзтва? Словаў шмат, але мала тэкстаў. Тэкстаў мала, а яшчэ меней твораў. Творы можна на пальцах пералічыць, а выданьняў зусім няма.

Было адно, дзе бязьлітасныя зубаскалы бэсьцілі гісторыкаў і пісьменьнікаў за тое, што блытаюць гады жыцьця асобаў, пра якіх бяруцца пісаць, музыкаў — за тое, што не працуюць над абнаўленьнем рэпэртуару; дзе ішла размова паміж адукаванымі людзьмі на тэмы, якія цікавяць адукаваных людзей, — на ўзроўні, які дазваляў не сумнявацца ў адукаванасьці суразмоўнікаў. Больш няма.

Затое ёсьць бадзёрыя сьцьверджаньні: "Увогуле тэматычную прастору беларускай літаратуры можна параўнаць з пашырэньнем Сусьвету пасля выбуху Звышновай. Пішуць пра ўсё" ("Дзеяслоў"). І няма пытаньняў, як вызначыць, ці пра штосьці не забыліся і ці насамрэч адбіваецца нейкім драматычным чынам на Сусьвеце выбух Звышновай.

Ёсьць бясконцы эксгібіцыянізм дробязных успамінаў і няма спробы асэнсаваць вынікі апошніх пятнаццаці гадоў у хоць бы якой сфэры грамадзкага жыцьця (прыклад спробы зрабіць гэта ў галіне мастацкай літаратуры глядзі вышэй).

Ёсьць эклектычная сумесь розных тэкстаў — асабліва ўражвае "ARCHE" "Нашы дзеткі" і ягоны папярэднік "ARCHE" №1-2002 — і няма трыбуны для грунтоўнай размовы.

Ёсьць ўзаемазахапленьне аўтараў (узор — інтэрвію Леаніда Галубовіча з Алесем Асташонкам у "Дзеяслове") і ані каліва палемікі.

Усё, чаго няма ў сёлетніх нумарах літчасопісаў, хай патроху, але прысутнічала ў "ARCHE-Скарыне". Аўтары жадалі высьветліць нейкую праблему, не для публікі, а для сябе саміх імкнуліся выглядаць разумнымі, адпавядаць свайму статусу. Гэта было балюча для тых, каму давялося трапіць пад крытычны агонь, але выхоўвала павагу да ўзроўню працы, што выстаўляецца на разгляд грамадзтва. Было — і больш няма.

Ці не пра тую ж зьяву гаворыць паважаны Пятро Ламан: артысты граюць па-беларуску, але на рэпэтыцыі гавораць парасейску — адпрацавалі для публікі й годзе? (А перад спэктаклем прапануюць залі "цяпло сваіх сярдзец" — як падчас гастроляў Купалаўскага ў Гародні.) Чым гэтыя паводзіны розьняцца ад паводзінаў рэдакцыі "Дзеяслова", якая ў **першым нумары** зьмясьціла творы, знаёмыя чытачам па іншых публікацыях? Цяперака ім няма чаго баяцца: у "ARCHE-Скарыне" маглі абсьмяяць, а ў "НН" ці "Нашым слове" адно сьлязу праліюць — і зноўку вернуцца да разважаньняў, як дурыць народ спрытней, чым гэта робіць улада.

"ARCHE-Скарына" зьнік. Рэфармаваны "ARCHE" і новапаўсталы "Дзеяслоў" вяртаюць традыцыю эклектыкі, непераборлівасьці й аксамітнае крытыкі. У іх могуць зьявіцца выдатныя творы, але на гэтых прынцыпах часопісы будуць адно месцам для публікацыі тэкстаў і ніколі ня стануць трыбунаю для абмеркаваньня праблемаў.

"НН" ня можа выконваць ролю інтэлектуальнага выданьня, гэта нельга спалучыць зь ейнай цяперашняй канцэпцыяй (хаця й робіць нешта ў гэтым кірунку — згадаем "Нашых сумленьнікаў" Анатоля Сідарэвіча ці "Кампот з хрэнам" Пятра Ламана, — але на ўзроўні публіцыстычных заклікаў).

Але ці зьнікла патрэба мець выданьне, дзе б адбывалася інтэлектуальная гаворка? Дзе не было б масак-"нікаў", як на інтэрнэт-форумах, якія лепей было б па-беларуску зваць балбатанкамі, каб не абражаць годнага слова "форум"? Дзе праблемы дэмагогіі і маніпуляцыі электаратам адышлі б на другі ці трэці плян перад пытаньнямі, а як жа жыве наша грамадства насамрэч? Дзе вартасьць меркаваньня вызначалася б не ягонай прыдатнасьцю нейкай невялікай групе ў нейкі канкрэтны момант, а адпаведнасьцю сапраўднаму стану рэчаў?

Уражаньне такое, што патрэба ў гэткай трыбуне, гэткім форуме без двукосьсяў засталася адно ў невялікай колькасьці людзей, якія не зьмяшчаюцца ў двухадзінную сыстэму "спажыўцы бюджэту" — "спажыўцы грантаў". Усе астатнія задаволеныя сытуацыяй, якая склалася: магчымасьці друкавацца, граць, сьпяваць застаюцца, а патрабаваньні якасьці **паступова зьмяншаюцца** — як і магчымасьці спажыўцоў чытаць, глядзець і слухаць.

Сыстэма інтэлектуальнага страўсізму мае сваю жорсткую праграму развіцьця, і, калі высілкі інтэлігенцыі, якую мы чамусьці называем адраджэнскай, засяродзіцца на выхаваньні "нашага" прымітывізму для ачмурэньня натоўпаў, для спрытнейшага падману людзей, можна гарантаваць, што найгарчэй падманутай будзе менавіта гэтая інтэлігенцыя.

Згадваюцца апошнія кадры фільму "Кабарэ": зубаскал, які, сьмеючыся, казаў людзям горкую праўду, сыходзіць, а на яго з залі глядзяць... самі памятаеце хто. У самавітым шоргаце новых выданьняў, у бясконцых газэтных разважаньнях пра тое, як лепей маніпуляваць народам, чуецца тая мэлёдыя: *Auf Wiedersehen!.. Auf Wiedersehen!..* Ці параб'е яе іншая музыка?

**Даніла Жукоўскі, Гароднія**

## дзе варта быць

### Тодар з намі

**Канцэрт Зьмітра Вайцюшкевіча! Тыя, хто яшчэ ня чуў Тодара і ягоную “WZ-orkiestr’y”, маюць выдатную магчымасьць выправіць становішча.** Гэтыя музыкі па-эўрапейску робяць беларускае. Прыходзьце 3 сьнежня (аўторак) у касьцёл Сьв.Сымона і Алены. Пачатак імпрэзы а 19-й.



### Арлоў і Бартосік у Берасьці

**У панядзелак, 2 сьнежня, у Берасьці адбудуцца творчыя сустрэчы з пісьменьнікам Уладзімерам Арловым і бардам Зьмітром Бартосікам.** У 14.10 яны завітаюць у Ліцэй №1, а 16-й — да студэнтаў і выкладчыкаў Берасьцейскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, а ў 18.00 наведаюць Абласную бібліятэку імя М.Горкага. У часе сустрэчаў можна будзе набыць кніжкі У.Арлова і З. Бартосіка. Уваход вольны.

### У менскіх клюбах

**5 сьнежня ў клюбе “Рэактар” адбудзецца вялікі канцэрт гурту “Нэйра-Дзюбэль”** з прэзэнтацыяй альбому “Піяр у часе чумы”. Пачатак а 19-й. Кошт квітка 5500 (танцпол), 7500 (за столікам).

**Б.Т.**

### Вечарына ў Ліцэі

**Вельмі хацелі б запрасіць на літаратурную вечарыну, прымеркаваную да 120-годзьдзя Купалы й Коласа, а таксама ўгодкаў Шаўчэнкі. Адбудзецца яна 29 лістапада а 16-й у памяшканьні Беларускага гуманітарнага ліцэю (вул.Кірава, 21).** Удзел возьмуць беларускія паэты, родныя Якуба Коласа, дэпутаты палаты прадстаўнікоў, госьці з украінскай амбасады.

Адначасова зь вечарынай распачнецца выстава “Песьняры свабоды”. Там можна будзе пабачыць творы мастакоў Арлена Кашкурэвіча, Міколы Купавы, Уладзімера Сулкоўскага, Віктара Сташчанюка.

**Прэс-служба Вучнёўскага самакіраваньня**

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Алену Паўлаўну** віншуем з Днём народзінаў! Жадаем моцнага здароўя і шчасьця ў жыцьці. Дзеці

**Шчырае вітаньне Дзянісу** з Маладэчна. Дзякуй табе за тое, што ты ёсьць. Z.V.

**Берасьцейская філія** Маладога Фронту віншуе Алезія Лабідзінскага і Зьмітра Плячка з Днямі народзінаў. Мы пераможам. Жыве Беларусь!!!

**Віншуем** нашага мілага мужа і тату Віталя Навумовіча з Днём народзінаў. Воля, Міраслава

### дом

**Набуду дом** у Менскім раёне да 2000 у.а. Т.: 234-46-06, Галіна

**Куплю кватэру**, танна, без агенцтваў. Т.: 234-46-06, Галіна

**Здыму пакой** у Менску. Аля. Т.: 257-42-71; 8-029-619-80-53

### ідэі

**Ужо 100 дзён**, як у зьняволеньні Павал Мажэйка і Мікола Маркевіч. Падтрымаем журналістаў! 10 сьнежня няхай кожны з вас дашле па паштоўцы на “хімію” да журналістаў, з самымі простымі словамі падтрымкі. Няхай нашыя словы сагрэюць іх сэрцы. Мы салідарныя з журналістамі, памятаем і чакаем – гэта павінны ведаць і іх турэмшчыкі. Паўлу Мажэйку: 247210, Гомельская вобл., Жлобін, мікрар-н №3, д.3, пакой 208. Міколу Маркевічу: 213760, Магілёўская вобл., Асіповічы, вул.Сумчанкі, 38, пакой 434.

**З-за такіх**, як гэтыя 8 і да іх падобныя, мы шмат зямель згубілі, трацім сувэрэнітэт і апошнія ў Эўропе. Спытайцеся, у чым? Ва ўсім. Акрамя калябаранцтва. ТУТ мы першыя

**Я ўжо бачу** той бераг надзейны! Яшчэ безнадзейны, але й зьбераажоны

**Скажы**, колькі год ты паліш цыгарэты, і я скажу, на колькі адсоткаў ты імпатэнт, бо кожныя дзесяць гадоў паленьня адымаюць патэнцыю на 20 адсоткаў. А ты колькі гадоў ужо паліш? Raisa

**Калі хто калісьці** зрабіў нешта нядобрае і пасьля зразумеў гэта, то трэба пакаяцца і папытаць прабачэньня. Хто ня каецца, той не выпраўляецца. Таму няма веры. Гэтае тычыцца многіх палітыкаў. Raisa

**Прыму ў падарунак** кампутар, хаця б *Pentium-I*, для ўласнага карыстаньня. Т.: (01771) 57-1-14

**Удзел у выбарах** адно ўмацуе цяперашнюю ўладу. Ігнаруйма выбары!

**Адсьвяткуйма разам** Дзень нараджэньня Багдановіча: 8 сьнежня а 14.00 каля помніка паэту.

**Штонядзелю** а 13.00 ля помніка Купалу ў Менску — беларускія чытаньні

### кнігі, музыка

**Беларуская музыка** ў Берасьці: касэты й кампакт-дыскі. Шырокі выбар. Т.: 24-54-56. Сяржук

**Прыватная калекцыя** экстрэмальнай музыкі й тэкстаў чакае новых уладальнікаў. А/с 31, 225710, Пінск-1. E-mail: mmaximus@tut.by

**Набуду рэлізы** *Dark Ambient/ Neo Folk/ Gothic* фармацыяў. А/с 31, 225710, Пінск-1. E-mai: mmaximus@tut.by

**Набуду кнігу** Варга Вікернэса *“Varg smal”* на расейскай мове. А/с 31, 225710, Пінск-1. E-mai: mmaximus@tut.by

**Прадам літаратуру** па славянскай гісторыі, культуры й міталёгіі. E-mai: mmaximus@tut.by

### прадам

**Прадам купоны** бясплатных аб’яваў газэт Гарадзенскай вобласьці й Маладэчна. Т.: (01591) 22-1-09

**Прадаю** факс *“Samsung SF110”*, б/к, танна. Т.: 288-45-87, Алесь

### пасьведчаньні

**Пасьведчаньне** працаўніцы тылу В.А. вайны на імя Прудзіч В.І. лічыць несапраўдным

**Студэнцкі білет** №226004 на імя Мурашкі Вольгі лічыць несапраўдным

### праца

**Выканаю** пісьмовыя працы па беларускай мове, літаратуры, гісторыі. Якасна. Юрась. Т.: 235-18-72

**Ангельская мова**: пераклады, індывідуальныя заняткі для маленькіх і дарослых. Кантрольныя работы. Студэнтка МДЛУ, 4 курс. Т.: 211-85-85, аб.29116

## in memoriam



У Мюнхене памёр Зьміцер Чайкоўскі, дзяяч беларускага замежжа, а таксама вядомы мастак. Вечная памяць!

3.12.2002 19.00

Алесь Камоцкі
ізноў запрашае Вас
пасядзець, паслухаць,
пра аднае ўспомніць,
пра другое забыцца...
Карацей –
на чарговую сустрэчу
ў Дом Літаратара:
ноч з марозікам
3.12.2002 19.00



Уваход вольны.

## паштовая скрынка

**Зьмітру П. з Кастрыцы.** Артыкул пра “БАТЭ” занадта агульны. Вобмаль фактаў, імёнаў, няма камэнтароў, праблемнасьці. Вашыя занатоўкі пра літаратуру зь цікавасьцю прачыталі.

**Паўлу Х. зь Менску.** Апавяданьне “Яна” не для газэты. Прапануйце яго часопісу, напрыклад “Дзеяслову”.

**Аўтару непадпісанага апавяданьня** “Беларускія сыны”. Гістарычная проза вымагае больш грунтоўнае працы з крыніцамі.

**Анатолю Т-ку зь Менску.** Рэцэнзія атрымалася павярхоўная. Пішучы пра літаратуру, нельга абапірацца толькі на асабісты досьвед. Асабліва калі Вы малады чалавек і “не ваявалі”.

**С. зь Менску.** За добрыя словы і за запрашэньне вялікі дзякуй.



НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______

Імя і прозьвішча ______

Адрас, тэлефон ______

# У Сабакі візыт



**Адзін сабака цягніком** паехаў у Маскву. Граждан уначы разабраў чыгуначнае палатно, каб сабака ня змог вярнуцца.

**Адзін сабака напісаў** кніжку пра карысную ежу. Граждан кніжкі не чытаў, але ўсім казаў, што “яе трэба спаліць, як Жанну д’Арк”.

**Адзін сабака ляцеў** у Маскву самалётам. Граждан, залезшы на дах пяціпавярховіка, страляў па ім з рагаткі і крычаў: “Ад мяне яшчэ ніводзін сабака ня ўцёк!”

**Аднаму сабаку прысьнілася**, што ён цар Гарох. Граждан растлумачыў гэты сон так: “Вы будзеце жыць бедна, але нядоўга, як Пушкін...”

**Адзін сабака стаяў** у чарзе па мандарыны. Граждан падышоў да яго і сказаў: “Дай сто рублёў, а то павешуся ў цябе пад вокнамі...”

**Адзін сабака закалоў** парсюка. На сьвежыну сышліся Граждáны. Гулялі ўсю ноч, а раніцай адзін прапанаваў: “Давайце сабаку адтырым, каб было што ўспомніць!”

**Адзін сабака чытаў** перад сном Біблію. Граждан чытаў сваю перапіску з ЖЭ-Сам і радаваўся, што справа рухаецца і ўжо хутка яму памяняюць лямпачку ў кухні.

**В.А.**



Гэты нумар “Нашай Нівы” выйшаў дзякуючы ласкавай падтрымцы спадароў Віталя Кажана (ЗША), Кастуся Акулы (Канада) ды Ігара Іванова (Вялікая Брытанія).




НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары “Нашай Нівы”:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**On-line: www.nn.by**




8 палос фарматам А2. Друкарня РУП “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”. Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3914.

Нумар падпісаны ў друк 27.11.2002.

Замова № 8168

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а